

Хочуць беларускай школы → 3

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



«Журавінкам» 40! → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 25 (3241) Год LXIII | Беласток, 24 чэрвеня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# Хочуць і ўмеюць пісаць!

**З гэтага летніка ўдзельнікі вяртаюцца як аўтары вершаў, артыкулаў і мастацкіх прац. Праводзяць час у выдатнай кампаніі — сустракаюцца з пісьменнікамі, дзеячамі ды асобамі, якіх у пэўнай ступені летнік фармаваў. Побач Белавежскай пушчы прайшлі XXXII журналісцкія майстар-класы „Сустрэчы «Зоркі»". Трыццаць другія і заўсёды іншыя.**

Сустрэчы «Зоркі» — адукацыйная і сацыяльная падзея, якая не можа застацца праігнараванай. У журналісцкіх майстар-класах удзельнікі з розных школ, гарадоў і вёсачак спазнаюць асновы журналістыкі. Калі ўжо туды пападуць, пераважваюць — як многія з іх пазней успамінаюць — вялікую прыгоду свайго юнацтва. Часам гэтая «прыгода» мае свой працяг. Менавіта на Сустрэчах «Зоркі» журналісцкую прафесію пазнавала Анна Пятроўская, Наталля Кандрацюк-Свярубская, Тамаш Саевіч ці Міхал Сцепанюк, якія сёння з'яўляюцца журналістамі рэгіянальных, агульнапольскіх, а нават сусветных СМІ. Менавіта Міхась Сцепанюк па сёння з'яўляецца частым госцем Сустрэч «Зоркі».

— Перш за ўсё, каб прыехаць на Сустрэчы „Зоркі", трэба разумець, што мы тут ствараем газеты, — падкрэсліла арганізатарка летніка Ганна Кандрацюк-Свярубская. — Вучымся журналістыкі. Зразумела, што частка дзяцей прыязджае на сустрэчы, бо для іх гэта форма ўзнагароды. Іх выбіраюць настаўнікі. Але ёсць і тыя, якія самі пішуць, стараюцца. Галоўнае, трэба пісаць. Думаю, што ў наш час, калі схіляемся ў бок непісьменнасці, гэта вельмі важная і адметная рэч у нашым культурным асяродку.

На сёлетніх Сустрэчах «Зоркі» прымала ўдзел 22 вучняў са школ у Бельску-Падляшскім, Нарве, Нараўцы, Гарадку, Орлі, Беластоку і Залуках. Паўсталі тры сустрачанскія рэдакцыі. Атмасферу здаровага творчага саперніцтва можна было адчуць ужо на самым пачатку.



### ПАТРЫЯТЫЗМ І СЛОВА

Сёлетнія Сустрэчы „Зоркі" былі прысвечаны сотай гадавіне ўзнікнення Беларускай Народнай Рэспублікі, ды юбілею 60-годдзя Літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Удзельнікі на культавай ужо фуры ўласніка агратурыстычнай кватэры «Бора-Здруй» спадара Барыса Казлоўскага пабачылі родныя хаты выдатных «белавежцаў» — Бандары Аляксандра Баршчэўскага, Тарнопаль Уладзіміра Гайдука, Баравыя Міры Лукшы ды Гушчэвіна Магды Бяляўскай сталі інспірацыяй для карцін і фельетонаў, якія апынуліся ў газетках. Удзельнікі мелі таксама магчымасць сустрэцца і ўзяць інтэрв'ю ў наймалодшай паэтэсы «Белавежы» Магды Бяляўскай і ў вопытнай ужо пісьменніцы шмат гадоў звязанай з аб'яднаннем Міры Лукшы.

Найбольш прывязанай да юбілею 100-годдзя БНР аказалася газетка рэдакцыі Вікторыі Гаць і Міколы Здрайкоўскага.

— Наша рэдакцыя назвала газетку «Бусел» таму, што гэта птушка асацыюецца з патрыятызмам, з Беларуссю, — патлумачыў Мікалай. — У гэтым годзе сотая гадавіна абвяшчэння БНР, таму на нашых старонках пішам пра радзіму і патрыятызм.

Газетку «Бусел» завяршае малюнак рэдакцыйнай мастачкі Юстыны Бакуменкі з лагатыпам Пагоні, прымеркаваный да святкавання 100-й гадавіны абвяшчэння БНР у Беластоку.

Не менш цікавую назву дала сваёй газетцы рэдакцыя Кандрата Косціна і Паўліны Ёдлы.

— Загаловак «Белы лес» таму, што нас акружвае лес — Белавежская пушча, — паясніў Кандрат. — А белы гэта колер справядлівасці і часам таксама нашага беларускага народа.

Трэцяя рэдакцыя, на чале якой стаялі Кляўдыя Галінская і Іван Карсунскі, сваю газетку назвала «Нараўчанскай ластаўкай». Тут можна захапляцца ўжо першай старонкай, якую размаляваў Марк. На самой справе Марк і Уладзік — браты, якія з'ехалі з ахопленай вайною тэрыторыі Украіны. Захапілі яны ўсіх свабодаю, з якой карыстаюцца беларускай мовай. Вывучаюць яе ад двух гадоў у Нарве.

На сёлетніх Сустрэчах «Зоркі» паўсталі таксама працы на „зорчын" конкурс „Мой герой беларус". Тэксты сустрэліся са шчырым захапленнем арганізатаркі Ганны Кандрацюк-Свярубскай.

— Прыйшлі вельмі цікавыя працы. Я магу ўжо сказаць, што конкурсныя працы даказалі, і мы гэта ўсведамляем, што наша беларускасць — з крыві, генаў, а не прыдуманая з космасу.

### ТВОРЧАЕ ПАРТНЁРСТВА

Ахвоты да сумленнай працы не адабраў удзельнікам ні Чэмпіянат свету па футболе, ні прыгожае надвор'е, ні свядомасць, што ўжо зараз пачынаецца доўгачаканы адпачынак ад вучобы. На Сустрэчах «Зоркі» паўсталі тры газеткі з фельетонамі, размовамі, вершамі, рэбусамі ды любімымі крыжаванкамі.

— Усё залежыць ад атмасферы. Тады паўстаюць не толькі публіцыстычныя жанры, але і вершы, апавяданні. Некаторыя нават песні ствараюць! Ёсць крэатыўнасць, — адзначыла Ганна Кандрацюк-Свярубская. — Трэба паказаць дзецям сваё захапленне пісьменнасцю. Творы дзяцей друкуюцца на старонках „Зоркі". Пасля, калі яны вырастаюць, прымаюць удзел у літаратурным конкурсе „Дэбют", пішуць у „Ніву".

Сустрэчы «Зоркі» абвяргаюць меркаванне, што маладым людзям сёння не хочацца пісаць. На летніку вучняў можна пазнаць крэатыўных і амбітных асоб. Удзельнікі Сустрэч «Зоркі» мелі шмат цікавых думак і з запалам іх рэалізавалі. Калі было трэба, цяжка працавалі, але ўмелі таксама добра гуляць пры вогнішчы. Сустрэчы «Зоркі» гэта таксама цікавая праява творчага партнёрства маладых аўтараў і «дыназаўраў» журналістыкі. Тут маю на ўвазе сёлетніх гасцей — Яўгена Вапу, Міхася Сцепанюка, Зміцера Косціна ці ўрэшце саму арганізатарку — Ганну Кандрацюк-Свярубскую. Дасягненні ўдзельнікаў неаднаразова выклікалі пашану ў прафесійных журналістаў, літаратараў ці кампетэнтных назіральнікаў, як настаўніца Валянціна Бабулевіч.

Наогул, ці існуе лепшы падарунак, які чалавек можа перадаць другой асобе, чым вопыт, дасягненні ўласнай працы, веды і асабістае, фармаванае ў розных месцах і часах, майстэрства?

XXXII Сустрэчы Зоркі падтрымалі Міністр унутраных спраў і адміністрацыі РП і Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**





# Чысціня і парадак

Афіцыёзная прапаганда Рэспублікі Беларусь вельмі любіць хваліцца парадкам на вуліцах беларускіх гарадоў. Літаральна ў кожным сюжэце дзяржаўных медый пра замежнікаў можна прачытаць ці пачуць пра тое, як госці сталіцы і іншых населеных пунктаў сінявокай рэспублікі захапляюцца чысцінёй праспектаў і грамадскім парадкам. У значнай ступені гэта праўда. Асабліва, калі параўноўваць з расейскімі ці ўкраінскімі гарадамі, ці нават іншымі былымі савецкімі рэспублікамі. Сапраўды, у Мінску чысцей, чым у сённяшніх Вільні ці Тбілісі. Аднак, як казаў дзядуля Эйнштэйн, усё адносна. У пераважнай бальшыні цяперашніх еўрапейскіх гарадоў, у тым ліку і ў суседняй Польшчы, такая ж, а то і большая чысціня.

Чысціня вуліц беларускіх гарадоў абумоўлена двума фактарамі. Па-першае, традыцыямі мясцовых насельнікаў — колькі б ні нішчыла савецкая ўлада лепшыя рысы беларускага народа, а звычкі гаспадарлівасці, дбайнасці і акуратнасці ўсё жывуць. Па-другое, аўтарытарнасцю дзяржавы. У жорстка цэнтралізаванай дзяржаве проста павінен быць знешні парадак і дысцыпліна. Шматлікія дворнікі пачынаюць працаваць ужо ноччу і многія гадзіны снуюць нібы пчолкі. Працуюць яны шмат, а атрымліваюць мізэрную зарплату. Прычым гэта ўсё мясцовыя жыхары, у адрозненне, скажам, ад Масквы, дзе карэнныя насельнікі ніколі не пойдуць працаваць дворнікамі — там такія працоўныя функцыі амаль цалкам ускладзены на прадстаўнікоў „сонечных узбекістанаў” — шматлікіх гастарбайтараў расейскай сталіцы.

Ну, а калі ў страшную спёку касцы рэжуць апошнюю пажоўклую і высахлую траву — бачу гэта якраз са свайго акна, калі пішу гэтыя радкі — сітуацыя „парадку” нагадвае ўжо тэатр абсурду. Але так дзеіць сістэма — калі паўгода таму было на паперы прынятае рашэнне, што 19 чэрвеня на канкрэтным участку павінна быць скошана трава, то яна будзе ў гэты дзень касіцца. Нават калі снег выпадзе, ці паводка заліе тую частку горада. Абуюць гумовыя рыбацкія боты і пойдуць касіць. Нават калі травы зусім не будзе. Усё для фронту, усё для перамогі!

А калі мы возьмем панятак „парадак” у сэнсе грамадскага парадку, то тут усё намнога складаней. Беларускі новы „орднунг” абумоўлены жорсткасцю ахоўнікаў правапарадку, карнасцю судовай сістэмы, у якой асоба чалавека — нішто, значнасць дзяржавы — усё. Таму штрафы ўзведзеныя ў ранг культу, дамінанты дзяржавы над чалавекам. Не сакрэт, што доблесная міліцыя мае планы па колькасці, скажам, адміністрацыйных правапарушэнняў. Калі ва ўчастковага міліцыянта мала за месяц складзеных пратаколаў — гэта ніколі не значыць тое, што ён добра працуе прэвентыўна, ці тое, што на гэтым участку ў гэтым месяцы сапраўды было мала правапарушэнняў. З боку начальства гэта азначае толькі адно — участковы кепска працаваў. Таму трэба вышукваць парушальнікаў закону і папраўляць адпаведную статыстыку.

Каго штрафуюць найперш у Беларусі — канешне грамадскіх актывістаў, якія выказваюць незадавальненне дзейнасцю ці бяздзейнасцю дзяржаўных органаў, імкнуцца рэалізаваць свае канстытуцыйныя правы, канешне незалежных журналістаў, якія асвятляюць негатыўныя з'явы ў дзяржаве і грамадстве, канешне прадпрымальнікаў, якія жывуць з цяжкай мазольнай працы рук сваіх і якіх дзяржава душыць падаткамі. Зразумела, што штрафуюць і звычайных простых людзей — безабаронных і няздольных самастойна бараніцца. Людзі ж у сваёй бальшыні не хочуць ведаць пра цэлую сістэму несправядлівасці. Натуральна, да таго дня, пакуль сістэма не закране іх саміх. А яна абавязкова закране кожнага. Бо калі ў прававахоўнай сістэме няма элементаў справядлівасці, адэкватнасці і галоснасці, рэпрэсіўнасць і маштаб яе механізмаў будзе толькі нарастаць.

Мне ніколі не даводзілася бачыць у сваім горадзе, каб міліцыянты штрафавалі грамадзян за лаянку матам у публічным месцы (а гэта лаянка скрозь!), каб штрафавалі тых кіроўцаў, якія ганяюць па гарадскіх вуліцах з двух- ці трохразовым перавышэннем скорасці, тых жа аўтамабілістаў за празмерна гучную музыку на ўсё наваколле (звычайна гэта расейская папса ці рэп), каб штрафавалі хамаў за іх вялізных сабак без наморднікаў і павадкоў. Усе гэтыя дзеянні з'яўляюцца, між іншым, паводле закону адміністрацыйнымі правапарушэннямі. Так што вось такі грамадскі парадак...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Крык лавачкі



Падляшская вёска адвярнулася ад сваёй вуліцы. Меншае лік лавачак. Новыя не замяняюць спарахнелых, старых. І нават калі, то ў выглядзе экзальтаванага або сентыментальнага ўпрыгожання, на якое, як гэта ні парадаксальна, ніхто не звяртае ўвагі. Таму што яна не для кагосьці, а для чагосьці. Магчыма, для самой сябе. Гэты жывы працяг міжасобасных зносін — сельская вуліца з прыпынкам прысядзібных лавачак — быў канчаткова парушаны. Якія прычыны гэтага — асобная тэма. Я не выступаю тут як даследчык-сацыёлаг, а толькі назіральнік. Хацеў бы дадаць: назіральнік не свабодны ад тугі з адценнем бяссільнай горычы. «О, мой каханы Аўгустыне, усё міне, міне, міне» — напявала калісь мая бабуля, гледзячы, як вырываюся ад яе бяспечнай спадніцы ў... дарослаcць. Толькі гэта зусім іншая гісторыя.

Мая бабуля ментальна затрымалася ў часах, можа, з пераломy XVIII і XIX стагоддзяў, з парогу тэхналагічнай рэвалюцыі, калі вышэйшай каштоўнасцю была праца сваіх рук, яйка з-пад куркі, карова-карміцелька, уласная зямля банкавым дэпазітам, а ізаляваная ад свету сялянская супольнасць аўтаркічным, самадастатковым полісам, кіраваным асвячонымі стагоддзямі звычаямі і нормамі суседскага суіснавання. Аб знешнім свеце даведвалася перад вайной з аповедаў вандроўных дзядоў, з «Рыцара Беззаганнай», газет для вяскоўцаў і радыёпрыёмніка на крышталях. Пасля вайны — ад сваіх уласных дзяцей, што рассыпаліся па гарадскіх школах і на вотчыну не хацелі вяртацца. Яны таксама звозілі да сямейнай сядзібы тэхналагічныя інавацыі: конную касілку, тэлевізар, тэлефон... Бабуля асвойвалася з навінкамі ўпэўнена, хоць і асцярожна. Ніколі, аднак, не ставілася да іх па-іншаму, як толькі да часовай навінкі чалавечай культуры, мінаючай фанабэрыі чалавечай цывілізацыі. Прызнавала працу і ўмеласці рук адзінай праўдзівай і несумненнай каштоўнасцю. Сапраўдным шокам, прынесеным сучаснай цывілізацыяй, аказалася... пастаянная пенсія — сялянская рэнта, якой таварыш Герак укупіўся на світанку сваёй улады ў ласку працоўнага люду, які да гэтага часу рабіў, так сказаць, па-рабску на гаспадарцы. Іншая справа ў тым, што быў ужо апошні час, каб сацыяльнай палітыцы сацыялістычнай па імені дзяржавы даць цывілізаванае вымярэнне. Асабліва ў дачыненні да сялян, пакінутых самім сабе. Бабуля доўга не магла зразумець, чаму кожны месяц атрымлівае грошыкі...бясплатна.

Сельскагаспадарчая пенсія была больш чым сціплая. Аднак бабуля разводзіла курачак і свінак, мела кароўку, вырошчвала бульбу і агародніну. Давала сабе рады. У падобнай сітуацыі была большасць яе пастарэлых суседзяў. Узаемная дапамога была неабходная. Хтосьці меў коніка, але не меў плуга, у каго-небудзь было абсталяванне, але патрэбны былі дапаможныя рукі на палетку. Суседскія звады, калі траплялiся, павінны былі быць хутка задушаны. Лавачкі, на якіх суседзі гаманілі вечарком, выконвалі важную ролю міжасобасных сувязей. Гэта на іх перасякаліся эмоцыі, фармаваліся меркаванні, аднаўляліся часова парушаныя сувязі. Радыкальныя змены адбыліся з далучэннем Польшчы да Еўрапейскага Саюза. Яго сацыяльныя і грамадскія стандарты зрабілі з жыхароў польскай вёскі людзей адносна багатых. Пенсійная сістэма атрымала шырокае распаўсюджанне. Для тых, хто не ўпісваецца ў яе, належыць неабходны для выжывання сацыяльны мінімум. Багацце (адноснае, вядома) мае сваю цану. Павялічваецца адлегласць, якая аддзяляе чалавека ад чалавека. Бывае, што суседзі не бачаць адзін аднаго на працягу некалькіх дзён і тыдняў, хоць жывуць «праз плот». Зямля, што ляжыць у аблогах або прададзена гарадскім спекулянтам, не кліча да апрацоўкі. Няма неабходнасці раіцца адзін з адным, калі лепш сеяць, калі жаць. Няма неабходнасці пазычаць каня, плуг ці прасіць любую дапамогу. Няма аб чым размаўляць. Успомню тут звычайнае падарожжа ў горад на большыя пакупкі... Калісь гэта была падзея. Сур'ёзная рэч. Ужо некалькі дзён да гэтага склікаліся бліжэйшыя суседзі да адной фуры. Цяпер адчыняюць вароты як мага цішэй, заводзяць рухавік уласнага аўтамабіля, выязджаюць на вуліцу, закрываюць вароты — часам на замок — і з'язджаюць паспешліва, без аглядкі. Бо што, калі раптам хтосьці махне рукою, папросіць падвезці... Спыніць машыну — не праблема! Сапраўды клапотна блізка сутыкнуцца з суседам. Пра што з ім пагаварыць?.. Пакінутыя лавачкі крычаць у самоце. Калі яны яшчэ стаяць каля вясковай вуліцы.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Спёка і нервы «вапняка»

Чэрвеньская жара і спёка дакучае ўсім — людзям, жывёле, агародніне, расліннасці. Усе з надзеяй углядаюцца ў неба ў чаканні дажджу. А тыя хмаркі ходзяць і толькі ходзяць па небе і не заплачуць сваімі слёзамі над пакутуючымі. У лес ужо нават страшнавата заходзіць. У ім такая засуха і спапялелая зямля быццам порах, што прадвяшчае не дай Божа ўспышку пажару ў любую хвіліну. Затым грыбны сезон адтэрмінаваны на невядомую будучыню. Аматары грыбной справы, а зараз гэта час лісічак, у сваёй дэпрэсіўнасці просяць прабачэння ва Усявышняга, заносячы яму свае малітвы. І толькі ўсе недаверліва круцяць галовамі, калі ўглядаюцца ў тэлевізар з чарговымі прагнозамі надвор'я, у якіх ні словам ніхто не заікнецца пра ападкі дажджу ў бліжэйшы час. Затое ўсе паведамленні гавораць пра рост тэмпературы і ўсе небяспекі звязаныя з такой сітуацыяй. Для пажылых людзей з павышаным ціскам гэтыя дні — звычайны кашмар. На шпітальныя аддзяленні трапляе штораз больш аслабелых ад сонечнага ўдару людзей з сардэчнымі праблемамі.

Засуха, ужо як стыхійнае бедства, павісла над усёй Польшчай і, здаецца, канца не відаць гэтаму няшчасцю. Без урадавай інтэрвенцыі на сельскім рынку тут хіба не абыдзецца. Ахвярамі бездажджоўя сталі так любімыя мною падляшскія трускалкі, умоўна званыя карыцінскімі. Людзі мелі толькі адно збіранне, бо трускалкі проста пазасыхалі на палях. Таму славутае свята трускалкі ў Карыціне ў гэтым годзе здаецца можа нават і не адбыцца проста з-за іх недахопу на тутэйшай зямлі. На рынку ў Гайнаўцы за трускалкамі выстройваецца такая чарга, якой я даўно ўжо не бачыў. Пры такім надвор'і без сістэмных тэхналагічных развязак арашэння натуральная прадукцыя ёсць ужо немагчымая. Гэтае самае і кранае ўсю агародніну і садавіну. Абазначае гэта і яшчэ адно: цана на іх напэўна будзе высокай і не кожнаму прыйдзецца мець асалоду ад дароў натуры.

Бяда заглядае пад сялянскія стрэхі і ў іншых галінах сельскай прадукцыі. У мінулую суботу паехаў я ў роднае старонне, аднак пабачаныя краявіды навейвалі сумныя рэфлексіі. Выгарэлыя лугі, на якіх статкі кароў маюць няшмат корму. Калі не пройдуць інтэнсіўныя дажджы, другі пакос травы застанецца толькі марай. А што гэта абазначае для нашай, падляшскай, малочнай краіны, няцяжка здагадацца. Большасць гаспадарак узбуйнілася коштам вялікіх крэдытных інвестыцый, якія трэба сплачваць штомесяц. А тут няма асноўнага для іхняй прадукцыі — свежай травы. Неспакой і страх зазіраюць у хаты жывёлаводаў. Палі з другой сыравінай у гэтай справе, значыць кукурузай, таксама пачынаюць моцна жаўцець, што не добра прарочыць для якасці і колькасці плёну. Мне, як вяскоўцу, сэрца і душа разбалеліся, калі ўглядаўся на жытнёвыя палі. Маем палову чэрвеня, а жыта ўжо так спаленае сонцам, што выглядае быццам гэта палова ліпеня і зараз пачнецца касьба. Ясным становіцца, што ў такім выпадку зерне не налілося, бо проста засохла. Ну і збожжа вельмі рэдкае, так што напэўна ў гэтым годзе не будзе ўраджаю. Нават неад'емныя ў жыце васількі і макі проста зніклі з сёлетняга краявіду.

Катастрафічна не хапае вады. У некаторых калодзежах яна таксама ўжо выбралася. Тое здарылася і на маім родным панадворку. Брат ужо збіраецца капаць калодзеж глыбей, каб мець ваду на патрэбы агарода. Зараз за ваду з водаправода, якой усе палiваюць агароды, трэба плаціць і то зусім не мала грошай. Ну і ў такую спёку трэба абавязкова ўвесь час паіць жывёлу. Некаторыя сяляне пачалі капаць глыбінныя калодзежы, каб мець сваю незалежную крыніцу вады. Пры вялікіх гаспадарках такая інвестыцыя хутка акупаецца. Нашы рэкі проста высыхаюць у вачах. Мой знаёмы з-пад Страблі распавёў, што з зімы ў цякучай там Нарве было тры з паловай метра вады, а зараз усяго трыццаць сантыметраў. Нават няма проста дзе пакупацца. Таму іду зараз узяць душ, каб астудзіць цела і галаву перад спёкай і чарговым матчам на футбольным чэмпіянаце свету.

Яўген ВАПА

# Ці будзе пачаткова школа пры Гайнаўскім белліцэі?

**Група бацькоў дзетак у дашкольным узросце з Гайнаўкі сабрала подпісы і выйшла з ініцыятывай стварэння пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мове пры Гайнаўскім белліцэі ў рамках Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове. Іх ініцыятыву адобрылі дырэкцыя, педсавет і рада бацькоў белліцэя і белгімназіі ды ўправа Павятовага старасства ў Гайнаўцы, адказная за навучанне ў звышгімназічных школах. За навучанне ў пачатковых школах адказнымі з'яўляюцца гмінныя ўлады, таму бацькі звярнуліся да бургамістра Гайнаўкі з просьбай даць згоду на стварэнне пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мове пры мясцовым беларускім ліцэі.**



— Ідэя стварэння пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мове пры белліцэі паўстала сярод бацькоў дзетак нашага дзіцячага садка. Да гэтай групы далучыліся іншыя бацькі і сабралі мы 14 дзетак ахвотных вучыцца ў пачатковай школе з дадатковым навучаннем беларускай мове пры Гайнаўскім белліцэі. Мы разлічваем, што апрача вучобы літаратурнай беларускай мове нашы дзеткі вучыліся б таксама дыялектным мовам, якімі карыстаюцца жыхары Гайнаўшчыны. Мы хацелі б, каб такія заняткі былі дадаткова арганізаваны таксама нам, бацькам, якія не ўмеюць размаўляць на сваёй мове. Хочам, каб у пачатковай школе пры белліцэі былі арганізаваны дадатковыя заняткі, падчас якіх нашы дзеткі маглі б знаёміцца з нашай культурай, мясцовымі традыцыямі і гісторыяй рэгіёна, аб чым мы размаўлялі з дырэктарам белліцэя Ігарам Лукашуком. Нам важна, што ў адным будынку белліцэя дзейнічалі б наша праваслаўнае прадшколле, пачатковая школа, белліцэй і мы маглі б пісаць праекты, прыцягваць сродкі на пазаўрочную актыўнасць і ўключаць у яе дзетак і моладзь гэтых адукацыйных установ, — сказала лідар ініцыятыўнай групы бацькоў па стварэнні пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мове пры Гайнаўскім белліцэі **Анна Мускала**, у прыватнасці дырэктар Непублічнага прадшколля імя святых свяціцелей Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы, якое працуе ў будынку белліцэя.

Ідэю адкрыцця пачатковай школы пры Гайнаўскім белліцэі замест беларускай гімназіі, якая праз год спыніць дзейнасць, падтрымаў дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы **Ігар Лукашук**.

— У нашу школу звярнулася група бацькоў дашкольнікаў з просьбай арганізаваць іх дзеткам аддзел пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мове пры нашым белліцэі. Бацькі хочуць, каб у Гайнаўцы дзейнічала школа, якая будзе садзейнічаць выхаванню з пашанай да роднага, да сваёй спадчыны. Дзеткам бацькоў ініцыятыўнай групы апрача адукацыі па абавязковай праграме навучання ў пачатковых школах і заняткаў па беларускай мове, наша школа можа запрапанаваць дадатковыя заняткі і ўдзел у дзейнасці мастацкіх калектываў дзеля падтрымання іх беларускай тоеснасці. У нашым комплексе школ дзейнічаюць вакальны, танцавальны і тэатральны калектывы і падобную дзейнасць маглі б мы арганізаваць для вучняў новастворанай пачатковай школы. На ўроках беларускай мовы, апрача вучобы літаратурнай беларускай мове, нашы вучні па ініцыятыве бацькоў маглі б знаёміцца таксама з беларускімі гаворкамі Гайнаўшчыны, — сказаў дырэктар Ігар Лукашук. — Ініцыятыву бацькоў станоўча ацанілі нашы педагагічная рада і рада бацькоў. Пасля аналізу мы прынялі рашэнне, што можам арганізаваць у нашым будынку пачатковую школу з асобным уваходам. Сярод нашых педагогаў ёсць спецыялісты па раннешкольнай адукацыі, якія могуць весці заняткі ў першых класах пачатковай школы. Аднак наш комплекс школ не з'яўляецца ініцыятарам стварэння пачатковай школы. Мы толькі станоўча адгукаемся на ініцыятыву групы бацькоў дашкольнікаў і менавіта бацькі сталі хадайнічаць у Павятовым старастве і ў бургамістра за стварэнне пачатковай школы пры нашым ліцэі.

Да лідара ініцыятыўнай групы бацькоў Анны Мускалы ліст у падтрымку ідэі стварэння пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мове пры белліцэі выслаў Беларускі саюз у РП, які падпісалі старшыня Яўген Вапа і прадстаўнік у Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей Славамір Іванюк. Ліст быў таксама высланы да ведама бургамістру Ежы Сіраку, старасту павета Міраславу Раманюку і дырэктару белліцэя Ігару Лукашуку.

— Управа павета падтрымала прапанову бацькоў па стварэнні пачатковай школы ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы і мы паведамілі бургамістра аб нашай згодзе, каб можна было падпісаць з ім пагадненне і стварыць пачатковую школу пры белліцэі, — сказаў стараста Гайнаўскага павета **Міраслаў Раманюк**. — Гэта добрая ідэя, бо дзеткі ў школе пры белліцэі маглі б вучыцца беларускай мове, культуры і нашым традыцыям, а аднachасна вучыліся б талерантнасці. Я цаню і цаню грамадскія ініцыятывы, якія выходзяць ад аб'яднанняў, арганізацый і служаць грамадству.

Бургамістр **Ежы Сірак** на сесіі Рады горада Гайнаўка, якая адбылася 30 мая, прадставіў радным інфармацыю аб просьбе гайнаўскіх бацькоў. Ініцыятыву бацькоў запрэзэнтавала Анна Мускала, якая абгрунтавала патрэбу заснавання пачатковай школы ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. Аднак дырэктары гайнаўскіх пачатковых школ напісалі супольны ліст, зачытаны падчас сесіі, у якім адмоўна ацанілі ідэю стварэння пачатковай школы пры белліцэі, звяртаючы ўвагу перш за ўсё на магчымасць навучання беларускай мове ва ўсіх пачатковых школах Гайнаўкі. Вельмі бурлівая дыскусія, падчас якой выказваліся радныя і жыхары Гайнаўкі, была спынена рашэннем радных па фармальнай прапанове аднаго раднага. У галасаванні ў справе інфармацыі бургамістра Гайнаўкі наконт просьбы гайнаўскіх бацькоў сем радных прагаласавала за падтрымкай ініцыятывы, сем было супраць, а трох стрымалася ад голасу. Прынамсі так палічыў галасы старшыня Рады горада Якуб Астапчук. Аднак не мог ён далічыцца, хто з радных не галасаваў, паколькі ў сесіі прымала ўдзел 18 радных.

У пачатку чэрвеня бургамістр Ежы Сірак даў адмоўны адказ старасту павета Міраславу Раманюку, які раней прапанаваў бургамістру даць згоду на арганізацыю пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мове пры белліцэі.

— Спасылаючыся на ранейшую карэспандэнцыю (...) у справе просьбы даць згоду на падпісанне пагаднення ў справе стварэння і вядзення праз Гайнаўскі павет пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы інфармую, што па прычыне неадназначнай пазіцыі Рады горада Гайнаўка (7 галасоў за, 7 галасоў супраць і 3 галасы стрымаліся) у справе заснавання і вядзення праз Гайнаўскі павет згаданай школы, не магу прыхіліцца да Вашай просьбы, — можна прачытаць у лісце бургамістра Ежы Сірака да старасты павета Міраслава Раманюка, які быў высланы да ведама таксама ініцыятыўнай групе бацькоў дашкольнікаў, Радзе бацькоў пры Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы і тром беларускім арганізацыям. — Аднachасна інфармую, што беручы пад увагу прапановы часткі радных і дырэктараў гайнаўскіх пачатковых школ, рашыўся я стварыць асобны аддзел першага класа з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Пачатковай школе № 4 імя Генрыка Сянкевіча ў Гайнаўцы па вуліцы Навававаршаўскай, 20. Аддзел будзе дзейнічаць з пачаткам новага школьнага года (верасень 2018).

Рашэнне бургамістра пачала рэалізаваць дырэктар Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы Бажэна Маркевіч, якая прапануе ўсім вучням у вылучаным першым класе вучобу беларускай мове, якая раней у гэтай школе вялася ў міжкласных групах. Дадаткова дырэктар Маркевіч прапануе першакласнікам заняткі па культуры, традыцыям і гісторыі рэгіёна ў рамках рэгіянальнага кружка.

— Пачатковая школа № 4 у Гайнаўцы добра падрыхтаваная да арганізацыі ў ёй класаў з дадатковым навучаннем беларускай мове таму, што там здаўна беларуская мова выкладаецца на высокім узроўні, а вучні дабіваюцца поспехаў у конкурсах па беларускай мове, — заявіў бургамістр Ежы Сірак.

Аднак ініцыятары стварэння пачатковай школы з дадатковым навучаннем беларускай мовы надалей разлічваюць на ажыццяўленне сваіх прапаноў.

— Мы не згаджаемся пасылаць дзетак у клас з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Пачатковай школе № 4 у Гайнаўцы, які мае там стварыцца. Нам прыкра, што бургамістр не падтрымлівае нашай ініцыятывы, а толькі рашыўся адкрыць першы клас з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Пачатковай школе № 4. На сесіі радныя абвінавачвалі нас, што забярэм з бюджэту горада сродкі на дзейнасць пачатковай школы пры белліцэі. Аднак для гэтай мэты былі б выкарыстаны сродкі з субвенцыі, якая ідзе за дзеткамі з дзяржаўнага бюджэту і належыць нашым дзеткам для арганізацыі адукацыі ў школе, у якую мы іх запішам. Мы просім стварыць клас, які даў бы пачатак пачатковай школе з дадатковым навучаннем беларускай мове пры белліцэі і не маем дачынення да арганізацыі класа з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Пачатковай школе № 4. Людзі нам гавораць, што на сесіі, калі адбывалася галасаванне радных за прапанову стварыць пачатковую школу пры белліцэі, не былі добра палічаныя галасы. Мы будзем хадайнічаць, каб галасы былі нанова палічаны і разлічваем, што вынік галасавання пасля яго аналізу будзе ў нашу карысць. Калі б была заснавана падставовая школа з дадатковым навучаннем беларускай мове пры белліцэі, хвалілі б яе ў будучыні з-за добрай адукацыі і за станоўчае яе ўздзеянне на грамадства Гайнаўкі і нават Гайнаўшчыны, — заявіла Анна Мускала.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**




# XXI

## Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб’яўляюць XXI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

### ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з’яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп’ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб’ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XXI Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

### ТЭРМІНЫ

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2018 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб’яўлены ў лістападзе 2018 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.



# Рысунак запісвае дух краявіду

Сямнаццаты мастацкі пленэр у Нараўчанскай гміне пачаўся 20 мая, а працягваўся да 3 чэрвеня 2018 года. Сабраў ён больш дзясятка мастакоў — ад творцаў маладога пакалення: Радаслава Мацеевіча з Торуні і Вольгі Буйко (Кукалевіч) з Гродна, праз вопытных мастакоў — Пятра Гагана і Марка Сапёлку з Гайнаўкі, Тэрэсу і Тамаша Свербутовічаў з Любліна, Уршулю Шкоп з Чэрвеньска, Альжбету Вольфграм і Кшыштафа Тшаску з Варшавы, Іну Дзянішчык з Брэста ды мафусаіла тутэйшага жывапісу — Віктара Кабаца, мясцовага, пушчанскага.

— Калі гаворка пра пленэры ў Нараўцы гэта ўжо гісторыя, традыцыя, — кажа Віктар Кабац. — Цудоўныя тут ваколіцы, мноства матываў для малявання. Важна тое, што дзякуючы пленэру паяўляецца вельмі многа добрых, на высокім узроўні прац, якія паказваюць тое, што памаленьку знікае з мясцовага краявіду. Гэта старыя дамы, характар і выгляд вёскі, нейкія прыродныя матывы, якія з гадамі змяняюць і свой выгляд, і характар, і цалкам прападаюць. Гміна атрымлівае вялікі набытак. Вельмі многа прац паказвае тое, чаго ўжо няма. Няма некаторых хат, і вёска выглядае іначай. Іншыя былі людзі. Па гэтай прычыне каштоўнасць пленэру вельмі вялікая. Першы пленэр, выдуманы Пятром Гаганам і Кацярынай Бяляўскай, адбыўся ў Нараўцы. Удзельнічала ў ім толькі шасцёх мастакоў, але быў ён вельмі важны, адразу атрымаў вялікую падтрымку войта Мікалая Павільча. Пераканаў ён радных, што арганізацыя наступных пленэраў — дасканалая прамоцыя прыродных і нацыянальных каштоўнасцей Нараўчанскай зямлі. Пленэры адбываліся ў розных порах года, нават зімой. Адтуль разнароднасць тэхнік, узніканне прасторавых форм. Пабыўкі мастакоў на Нараўчанскай зямлі і іх багатая творчасць з ходам гадоў сталі традыцыяй і на пастаянна ўпісаліся ў мастацкую культуру гміны. Сямнаццаць пленэраў — гэта ўжо велізарны даробак мастакоў амаль з усяе Польшчы і таксама з замежжа — з Беларусі, Літвы. Украіны, Латвіі... Вялікае мастацтва ў такім невялікім пасёлку. Мастакі пакінулі тут свой след, які паказвае, што маем тут, у Нараўцы, на ўскраіне Белавежскай пушчы, у нашым асяроддзі — якое ў нас багацце і хараство! І ў галерэі Саланевіч штораз больш файных мастацкіх выяў, найбольш алейных карцін. Мы сёлета падумалі, што пленэр будзе крыху іншы. Была задума, каб зрабіць «выпады» ў такія куткі Нараўчанскай гміны, якія маюць якоесь значэнне або гістарычнае, лакальнае, або маюць у сабе штосьці такое, што мастак можа цікава паказаць, але не ў алейных працах, а ў графіцы, рысунку, акварэлі, пастэлі, невялікіх эскізах алоўкам ці пёркам. І такія працы сёння трапяць у галерэю. Сёлета мастакі з Любліна, з-пад Зялёнай-Гуры, Варшавы, Торуні, Беластока, Чэрвеньска, Гайнаўкі, Гродна і Брэста. Я тут буду мець дзве працы. У Нараўцы ёсць астанкі старадаўняга могільніка, парослага дрэвамі, дзе пахаваны жыхары з усёй ваколіцы; там уко досыць вялікі лес з малымі слядамі ад могільніка. Згінулі драўляны крыжы, пасыпаўся бетон, застаўся камень — вечны камень... Парабіў я там эскізы. Дарэчы, у мяне нараўчанскі пленэр увесь год, таму што я тут бегаю — і зімой, і летам, і пад пушчай, і пад Семяноўкай... У нас тут асталося — у Масеве, Семяноўцы, Альхоўцы, Гушчэвіне — вельмі шмат драўляных хат, ужо пасляваенных, бо ў час вайны вёскі пераважна былі спалены. Хаты пабудавалі прыгожыя, вялікія. І яны цяпер адрамантаваныя малодшым пакаленнем, добра і трапна, згодна з краявідам. Нідзе няма так прыгожа аднолеўленых хат, як у Нараўчанскай гміне.

Камісар пленэру і выставы — прафесар Тамаш Свербутовіч з мастацкага факультэта Люблінскага ўніверсітэта, не першы раз прымае ўдзел у нараўчанскім пленэры.



Оля Буйко-Кукалевіч



Іна Дзянішчык і Уршуля Шкоп

— Надвор’е, сонечнае, наводзіць крыху нейкую дрымотную ляноту, — смяецца камісар. — Але з другога боку мабілізуе, каб як найбольш пабачыць у ваколіцы. Мелі мы цудоўны выезд у пушчу, Віктар паказаў нам «свае» месцы, улюбёныя, якія з ім прыязняцца, а ад цэнтра культуры знаёміць нас з ваколіцай пані Кася Бяляўская. Шмат мастакоў ездзіць крыху далей, нават пад Міхалова ці Крынкі. Далі мы сабе свабоду. Мастакі працавалі заўзята. Для мяне было гэта крыху сентыментальнае падарожжа, бо я праводзіў маленства ў пушчы, у Гайнаўцы, у вайсковай часці. Але прыязджаю таксама таму, каб «зарадзіць сабе акумулятары», вельмі шмат значаць размовы з людзьмі ў такім месцы. Людзі маюць розныя характары і схільнасці, некаторыя маўклівыя і засяроджаныя як маладзенькая Оля, іншыя «шалёныя» і крыху шалапутныя як Уля. Некаторым звычайна лягчэй працаваць у майстэрні, ужо з адлегласці. На пленэры пануе такая атмасфера, што кожная пазіцыя і спосаб працы адабраецца. Была просьба, каб мы выконвалі працы на паперы — таксама гуашы, акрылі, рысункі, але ніхто нікога не правяраў. Бачна, хто з чым вяртаўся з пленэру — вось Радак са сваім пёркам, дзяўчаты з пастэллю... Калі прыйдзе моладзь у галерэю, для вучобы і знаёмства з мастацтвам, пабачыць розныя мастацкія тэхнікі, рэзультат нашай працы... Я першы раз на пленэры ў самой Нараўцы. Бываў у Ляўкове, у Семяноўцы, у Нарве. А ўмовы тут дасканалыя. Трэба падзякаваць войту Нараўчанскай гміны за такі падыход і спрыянне мастацтву.

— Дзякую ўсім мастакам, якія сталі амбасадарамі Нараўчанскай гміны. Пленэры далі плён — каля 300 прац у нашай галерэі, — войт Нараўчанскай гміны ганарыцца творчымі здабыткамі тутэйшых і замежных мастакоў, якія пабывалі на нараўчанскіх пленэрах. — А найбольшая ў тым заслуга — Віктара Кабаца і Пятра Гагана — яны былі першымі, якія заразілі нас гэтым спосабам на папулярызацыю гміны, на ўзмацненне каштоўнасцей, на ўвекавечанне памятак, якія, на жаль, прападаюць, але ж намаляваныя — жывуць. Ёсць клімат для таго, каб працягваць адлічванне новых пленэраў, бо ёсць спрыяльны клімат і ў самаўрадзе гміны. Для нас гэта найлепшы спосаб для прасоўвання нашай мясціны і гміны.

Пленэрная выстава ў галерэі Тамары Саланевіч у Нараўцы пачнецца ў 15:00 у суботу 23 чэрвеня. Запрашаем!

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

# Пінская фантасмагорыя

**Гарады, распаложаныя над рэкамі, найчасцей маюць правай левабярэжныя часткі. Часам аднак прырода не дазваляе засяляць адной з іх. На Падляшшы так маем са старым Мельнікам, якога забужанскія лугі ніколі не былі заселены. Яны папросту вясною заліваюцца вадою і не было тут сэнсу будавацца. На Палессі падобная сітуацыя з Пінскам. Левы бераг даліны Піны высокі, прыгодны быў для заснавання тут гарадзішча, замка, места. Правы тым часам гэта шырокая даліна, якая ў Пінску спалучаецца з Прыпяццю.**

Калі глядзіш з пінскага старога горада на другі бок Піны, бачыш бяскрайнюю, плоскую даліну, якая вясною залітая вадою, а зімою пакрытая снегам. Менавіта зімою гэтая белая плоскасць робіць асаблівае ўражанне. Стаіш на ўзвышшы агоры і назіраеш за фантастычным светам. Гэта ані возера, ані мора, не стэп і не пустыня. Гэта палеская бяскрайнасць, дзе зямля сустракаецца з небам. Яна па-свойму блізкая. Там няма бездані, няма ўраганаў ні качэўнікаў. Ёсць затое астраўкі з добрымі людзьмі, шляхтай і не шляхтай, пчалярамі і гаспадарамі, спевакамі і паэтамі, духоўнікамі і пустэльнікамі... Глядзіш на гэтую бяскрайнасць і ўсведамляеш, што недзе там ёсць астравок з Горнавам, Лемяшэвічамі, Калаўравічамі, Шаломічамі, Біжарэвічамі, Цэрэбенем...

Дакрануцца да няўлоўнага...
Нядзелю зблытаць з серадой...
Дзве хвіліны для бясслоўнага
Позірку майго на той
Белы-белы свет...
Адзначаны
Снегам і сустрэчай страчанай
(нібы вымерз акіян!!!)
Дзве хвіліны — і мяцеліца
Сілуэт твой...
Няўжо дзеліцца
Дзень на мой і твой падман?

Так піша са сваёй пінскай агоры Алена Ігнацюк. Найноўшы зборнік яе паэзіі „Будзе ўсё наадварот”[1], выдадзены быў у 2016 годзе. Больш за дзесяць гадоў таму назад аўтарка вярнулася на роднае Палессе, дзе цяпер выкладае тэорыю і гісторыю сусветнай культуры ў Палескім універсітэце ў Пінску. Раней пятнаццаць гадоў Алена Ігнацюк працавала старшым навуковым супрацоўнікам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны ў Мінску.

Нарадзілася даследчыца і пісьменніца ў сяле Осаўцы, непадалёк палескага Драгічына. Тут знаходзіцца храм Архангела Міхаіла, пабудаваны ў XVIII ст., дзе ў 1873-1889 гадах служыў а. Канстанцін Паўловіч, прадстаўнік вялікага палескага духоўнага роду. Ягоны сын Сяргей Паўловіч (1875-1940), багаслоў па адукацыі, у міжваенны перыяд быў адной з важнейшых постацей беларускай праваслаўнай Вільні. Дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, выкладчык духоўнай семінарыі, выдавец, аўтар кніг і падручнікаў па беларускай мове і Законе Божым... З Осаўцаў родам таксама Мікола Трафімчук, сучасны беларускі паэт і журналіст.

Осаўцы вядомы яшчэ адной постаццю — а. Віктарам Сарокай, які ў 1973-2018 гадах быў настаяцелем тутэйшага прыхода. Упакоіўся ў Госпадзе 13 сакавіка гэтага года, пражыўшы 90 гадоў. Свяшчэннік меў шмат духоўных дзяцей, не толькі з прыхода, але з усёй Берасцейшчыны. Як пакорны духоўнік, карыстаўся вялікай пашанай і аўтарытэтам.

Осаўцы спарадзілі багасловаў, духоўнікоў, паэтаў. Нездарма паэзія Алены Ігнацюк вылучаецца духоўнасцю. Калі дакранаешся да гэтых слоў, яны прымушаюць затрымацца на кожным радку, заглыбіцца ў сэнс, міжволі шукаць сімвалаў. Гэта сапраўды прыгожае пісьменства, дагледжанае ў форме, ад якога слоў эмануе глыбіня перадуманага і перажытага, дабрыня міратворная і святло надзеі...







Мне б да зоркі прытуліцца...
Гучным спевам...
Ясным зрокам?
Я пачну за ўсіх маліцца
Беспрытульных...
З Новым Рокам!

Паміж паэзіяй здараецца і проза... Тое ж бывае і ў творчасці Алены Ігнацюк. Сёлета яна паднесла чытачам неспадзяванку, падпісаную псеўданімам Дора Гуш. Гэта зборнік казак-фантасмагорый „Дыяруш для дзівалова”[2]. Праўда, кніжка не для маленькіх дзяцей, на што звярнулі ўвагу выдаўцы, адзначаючы лічбай 12+. Бо зімовыя, пінскія фантасмагорыі насычаны алегорыямі, сімваламі і глыбокім, філасофскім роздумам. Як ва ўступе адзначае аўтарка, тут знойдзем разважанні пра „філасофію „нуля”, пра „субстанцыю” дня і заканамернасць метамарфоз, пра ролю культуры і эстэтыкі ў жыцці пінчукоў і пра шмат іншае”.

У кнізе восем фантасмагорый. Дзеі сямі з іх праходзяць у чарговыя дні тыдня. Восьмае, фантастычнае апавяданне азагалоўлена „Шчасніца, альбо дзень, якога ў сапраўднасці не існуе”. У гэты восьмы дзень адбываецца хіба найбольш неверагодных здарэнняў. На вуліцах Пінска гераіня сустракае нават клонаў дуэта „NaviBand”, а сцены і дахі ўсіх дамоў горада збудаваныя з ружовага, тоненькага шкла. Праз гэтае шкло можна паназіраць як пінчукі апоўдні абедаюць.

І даведваемся, што „ў Пінску існуе адно кансерватыўнае правіла: бацькі і дзеці, нават бацькі бацькоў павінны былі сустракацца кожны дзень пасля абеду”. Гэта ідэалізацыя патрыярхальнага бытавання пінчукоў, якія „з крыламі, для палёту і для мары”. Зараз жа аднак яны прызямляюцца: „Палешукі сёння занадта прыземленыя, цікавяцца больш матэрыяльным. Яны страцілі свой вырай”.

Гэтым выраем была ўласнасць і свабода, асаблівая характэрная пінскай шляхце. Пасляваенныя гады савецізацыі надламалі яе тоеснасць і гонар. Адабралі ўласнасць і прымусілі быць рабамі. Навучылі недаверу. Пазбавілі шчасця.

Шчасніца — гэта той ідэальны восьмы дзень, куды імкнецца пінчук і паляшук. Бо хаця прызямліўся з падцятымі крыламі, але ён моцны ў сваіх памкненнях і крылы адраджаюцца.

Пінск для Палесся, тое што Кракаў для Малапольшчы, Львоў для Галіцыі, Вільня для Літвы-Беларусі, Бельск для Падляшша... Прыгадваюцца словы прафесара Ежы Навасельскага: „У Кракаве мастацкія справы былі заўсёды на першым плане. Было менш грошай, было далей ад алтара, таму людзі не былі так забеганыя за рознымі матэрыяльнымі карысцямі, за грашамі, мелі больш часу, каб задумацца над мастацкімі справамі... І заўсёды тут так было. (...) Вядома, што даходзіла і традыцыя, само тое, што чалавек хадзіў, як бы не было, па адным з найпрыгажэйшых гарадоў свету, заўсёды за ім назіраў, гэта таксама неяк фармавала”.

І я веру ў Пінск ды яго добрых анёлаў...

❖ **Дарафей ФІЁНІК**

[1] Алена Ігнацюк, *Будзе ўсё наадварот*, Мінск: Кнігазбор, 2016, 96 с.
[2] Дора Гуш, *Дыярыуш для дзівалова. Зімовая фантасмагорыя*, Мінск: Кнігазбор, 2018, 84 с.

## Дэмаграфія Мілейчыцкай гміны

Мілейчыцкая гміна Сямятыцкага павета займае плошчу ў 152 квадратныя кіламетры. Гэта дзясятая частка тэрыторыі павета. Яна мяжуе з Боцькаўскай, Чаромхаўскай, Дзядковіцкай, Кляшчэлеўскай і Нурэцкай гмінамі. Шчыльнасць насельніцтва — 13 чалавек на квадратны кіламетр.

Зараз у Мілейчыцкай гміне пражывае 1925 чалавек у 21 населеным пункце. На 100 мужчын прыпадае 115 жанчын. Як вядома, жанчыны наогул даўжэй жывуць за мужчын. У 2012 годзе ў гміне было 2015 асоб, у 2016 годзе — 1999. Найбольшыя вёскі ў гміне: Мілейчычы — 785 жыхароў, Паканева — 169, Валкі — 129, Паканева-Калёнія — 114, Сабятына — 109 ды Рагачы — 103 чалавекі.

Ад трыццаці да ста жыхароў налічваюць вёскі Харашчэва — 76, Харашчэва-Калёнія — 71, Навасёлкі — 57, Мікулічы — 49, Клімковічы — 43, Левашы — 36, Грабарка — 35, Мядзвежыкі — 34, Белкі — 32 і Баравікі — 27. Самыя малыя вёсачкі гэта Ялтушчыкі — усяго 7 жыхароў, Касцюковічы — 10, Ханькі — 14, Галубоўшчына — 15 і Любейкі — 22.

У мілейчыцкіх сёлах паменшала жыхароў, між іншым, у саміх Мілейчычах на 30 (!), у Мікулічах — на 7, у Сабятыне на 5, у Баравіках і Навасёлках — на 4, у Ханьках ды ў Клімковічах на 2 чалавекі. Ні ў адным з іх не пабольшала. Гміна з году ў год становіцца штораз больш бязлюднай.

У Мілейчыцкай гміне ёсць 100-гадовыя жанчына ў Мядзвежыках і 99-гадовая ў Мілейчычах (соты год пойдзе ёй восенню). У гэтым годзе „залатое вяселле” будзе спраўляць дзевяць пар. Атрымаюць яны медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё”, прысвоеныя прэзідэнтам РП.

## Сухастоіны пры асфальтавай дарозе

Пры павятовай дарозе ў вёсцы Плянта (у яе частцы пры чыгунцы) Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета расце высокі лес. У ім пераважаюць сярод іншых дрэў высокія альшыны (яны над ручаём) ды елкі і бярозы. Тут караед спустошыў усе некалі стройныя высокія елкі, з якіх зараз падаюць сухая кара і галіны. Стаяць тут і сумныя высокія, сухія бярозы. Сёлета ссеклі толькі адно высокае і тоўстае дрэва, якое зваліў на зямлю напорысты вясенні вецер.

Сухія дрэвы побач дарогі трэба ссячы нават цяпер, яны ж сухія. А так яны з'яўляюцца пагрозай для карыстальнікаў дарогі. Толькі гэта павінен зрабіць прыватны ўласнік гэтага лесу, але яму, па ўсім відаць, няспешна.

## Фэст у Старым Масеве

У суботу, 23 чэрвеня г.г. Гмінны асяродак культуры і Гмінная ўправа ў Нараўцы Гайнаўскага павета запрашаюць на беларускі фэст у Старым Масеве. Яго традыцыйна ўжо спалучылі з мясцовым святам св. Ануфрыя. На сцэне выступяць вакальна-музычныя і танцавальныя мастацкія калектывы, між іншым, „Вясна” з Беластока, „Росы” з Рыбалаў (Заблудаўская гміна), „Нараўчанкі” з Нараўкі і „Аванці” з Васількава каля Беластока ды гасцінна фальклорны калектыў „Мілавіца” са Свіслачы (Рэспубліка Беларусь).

Пачатак летняга культурна-забаўляльнага мерапрыемства а гадзіне 17-й.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# XXXII Сустрэчы „Зоркі”



## — 100 гадоў БНР, Новае Ляўкова, 11-16.06.2018

*— Наша рэдакцыя назвала газету „Бусел”, таму што гэтая птушка асцыюецца з патрыятызмам, з Беларуссю. У гэтым годзе — сотая гадавіна абвяшчэння БНР. Таму на нашых старонках пішам таксама пра радзіму і патрыятызм,* — заяўляе рэдактар Мікола Здрайкоўскі ва ўступным слове да сустрачанскай газеткі.

Сапраўды, праз усе 26 старонкі **„Бусла”** прабіваецца настрой патрыятызму і слаўнай гадавіны БНР. Патрыятызм — гэта найперш увага да роднай прыроды, якая натхняе да прыгожых твораў і лепшага жыцця. А пра слаўную гадавіну распавядаюць нашы госці. Яны таксама задумваюцца разам з намі, удзельнікамі XXXII Сустрэч „Зоркі”, хто для іх герой і ўзор беларуса? Як не цікава, вы не пачуеце тут традыцыйных і пафасных адказаў, да таго кожны герой інтэрв'ю напамінае пра дабрыню, годнасць, вернасць продкам і роднай мове. Газета „Бусел” каларытная і разнавідная ў журналісцкіх формах. На першым месцы тут фельетон, у якім найбольш спела і свядома *бушуе* згаданы ўжо **Мікола Здрайкоўскі**. Коля піша пра зачараваны свет макаткі і чэмпіянат свету „Расія-2018”. У газеце натхняльныя размовы з паэткай Магдай Бяляўскай і рэдактарам Яўгенам Вапам. Інтэрв'ю — праца калектыўная, тут праявіўся ўвесь патэнцыял, уражлівасць і творчае ўяўленне цэлай рэдакцыі. Сярод новых аўтараў лёгкасцю пяра вылучаецца **Уладзік Кутузаў** і яго жартоўны фельетон „У нашым домку”. Газетка прыаздоблена раслiннымі матывамі з Нараўчанскай зямлі, з якімі густоўна пераклікаецца беларуская сімволіка. Дызайн аформіла рэдакцыйная мастачка **Юстына Бакуменка**. Усе старонкі, разам з гумарам, рэбусамі і кулінарнымі рэцэптамі, чытаюцца лёгка і прыемна.



Пара назваць поўны рэдактарскі састаў „Бусла”. У гэты раз газетай кіравалі двух рэдактараў — **Вікторыя Гаць і Мікола Здрайкоўскі**. У рэдакцыі працавалі Аня Радзівончык, Дар'я Несцярук, Удадзік Кутузаў, Юлька Грэсь, Юстына Бакуменка. Іх апякункай з'ўлялася ніўская журналістка Уля Шубзда.

Другая сустрачанская газета **„Белы лес”** прыаздобіла вокладку дрымучым, казачным лесам, з якога вылятае белы птах. У яго дзюбе бел-чырвона-белы сцяг. Самыя вялікія эмоцыі аўтараў кружаць вакол лесу і таемных сіл прыроды. Добрым прыкладам тут верш дэбютанткі **Малгажаты Астроўскай** „У нашай пушчы”, дзе дрэвы спрачаюцца за пальму першынства. Да гэтага Малгося намалявала елку, дуб, клён і бярозку. У падобным, пушчанскім настроі два апавяданні **Міхася Пахвіцэвіча** (ён таксама дэбютант). У іх прырода ўплывае на лепшыя ацэнкі ў школе (!) і падказвае, як творча і смачна правесці канікулы. У „Белым лесе” файны фельетон **Паўліны Ёдлы**, якая піша пра паэта Уладзіміра Гайдука. Яе фельетон розніцца тым ад іншых, што замест пісаць „у яго вельмі прыгожы дом”, яна прыводзіць жывыя ўспаміны людзей пра паэта, піша як выглядае наваколле роднай хаты. У пушчанскім настроі таксама гутарка з Наталляй Васько і Барысам Казлоўскім. Для аматараў загадак падрыхтаваны інтэлігентныя рэбусы аўтарства **Міколкі Абрамюка і Магды Вайцешык**. Магда рысуе таксама макет легендарнага царскага палаца ў Белавежы. Аматарам спорту спадабаецца комікс пра змаганне каманды „Ласёў” з камандай „Зайцаў” (аўтары — Магда Вайцешык і Міхал Пахвіцэвіч). Багатым слоўнікамі пачуццёвасцю вылучаецца таксама фельетон **Кандрата Косціна** „Ці варта быць добрым чалавекам”. Большую частку рэдакцыі „Белага лесу” склалі дэбютанты — Магда Вайцешык, Малгажата Астроўская, Міхал Пахвіцэвіч, Дам'ян Дмітрук, Мікалай Абрамюк. Трох астатніх сяброў: Клаўдзія Ніканчук, Паўліна Ёдла і Кандрат Косцін, другі раз на Сустрэчах. Менавіта **Паўліна і Кандрат** паспяхова кіравалі працай рэдакцыі, а апякункай газеты была настаўніца Валянціна Бабулевіч.

Як не цікава, трэцяя газетка таксама прыдумала загаловак

з птушкай — **„Нараўчанская ластаўка”**. Гэтая рэдакцыя працавала пад кірункам **Клаўдыі Галінскай** (іх апякун — настаўніца Анна Франкоўская). „Нараўчанская ластаўка” — гэта найперш прыгожы дызайн аўтарства **Марка Кутузава і Магды Люнды.** Усярэдзіне сюрпрыз — верш **Габрысі Вільдовіч „Засуха”**. У ім настрой зямлі і людзей стомленых засухай — яны выглядаюць дажджу! Габрыся, хоць дэбютантка, з адчуваннем апрацавала рэдакцыйнае інтэрв’ю з Мірай Лукшай. Яна таксама размалявала шлях „белавежцаў”, па якім падарожнічалі ўдзельнікі XXXII Сустрэч. Наш шахматыст і намеснік галоўнай рэдактар **Іванка Карсунскі** высмажыў некалькі фельетонаў на гэтую тэму… у сваіх жартаўлівых вершаванках. Працуў рэдакцыі папаўнялі дэбютанты Караліна Кандрат і Марцін Коршак. Калі глядзець на плён нашых майстар-класаў, які выспеў цягам бягучага тыдня, ён сапраўды імпазантны. Мы правялі і напісалі ажно 8 файных гутарак-інтэрв’ю з гасцямі, узнікла 9 фельетонаў, 6 інфармацый, 9 вершаў, 16 малюнкаў, комікс, дзве крыжаванкі і два рэбусы, запісалі кулінарныя рэцэпты, загадкі і гумар. Нашы ўдзельнікі пад кірункам Міхася Сцепанюка запісалі радыёрэпартаж пра майстар-класы для Радыё Беласток.

На канец мы паглядзелі мастацкую прэзентацыю гісторыі Сустрэч „Зоркі” ды ўсе атрымалі сустрачанскія кашулькі з Пагоняй, якія запраектаваў Адам Паўлоўскі.

XXXII Сустрэчы „Зоркі” мы арганізавалі дзякуючы датацыям.

*Zrealizowano dzięki dotacji Ministerstwa Spraw Wewnętrznych i Administracjii Podlaskiego Urzędu Marszałkowskiego*

**Галоўны арганізатар**
**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Бабуля — мая гераіня беларуска!



У першы дзень Сустрэч «Зоркі» прыехала да нас **Наталля Васько**, сёлетняя выпускніца Гайнаўскага белліцэя. Наталля — сустрачанка са шматгадовым стажам. Яна лаўрэатка многіх літаратурных, прадметных і мастацкіх конкурсаў, а таксама стыпендыятка Маршалка Падляшскага ваяводства. Сустрэчу пачалі мы з літаратурных чытанняў, далейшую частку вечарыны павяла рэдакцыя газеткі «Белы лес», якая падрыхтавала гутарку-інтэрв’ю з госцяй.

**«Белы лес»**: — *Калі судзіць па беларускіх імпрэзах і сайтах, Ты была першай беларускай у ліцэі. Што Цябе пераканала да гэтага?*

**Наталля Васько:** — Можа, пачнем з таго, што я ад прадшколля да гімназіі вучылася ў адной школе і ад пачатку вывучала беларускую мову. Пасля заканчэння школы ў Нараўцы я не ўяўляла сабе, што не буду далей вывучаць беларускую мову і таму паступіла ў Гайнаўскі белліцэй. Я ішла ў ліцэй з думкай, што там будзе многа беларускасці. На жаль, аказалася, што так не ёсць. Але нягледзячы на гэта, я старалася дзейнічаць на беларускай ніве, паказваць прыгожасць беларускай культуры, бараніла яе, падказвала іншым, каб мы яе не пакідалі.

**«Белы лес»:** — *Чаму Твае сябры з беларускага ліцэя не ангажуюцца так як Ты?*

**Наталля Васько:** — Гэта сапраўды цяжкае пытанне. Найперш таму, што для многіх няма такой праблемы. Няма ў школе такога ўрока, каб зрабіць дыскусію пра беларускасць. Думаю, што кожны павінен сам сабе задаць такое пытанне і шчыра адказаць — хто ён.

З мовай у нас сапраўды няпроста. Я з ранняга дзяцінства слухала беларускую мову ў хаце і ў вёсцы, таму лічу сябе беларускай. З маімі гарадскімі сябрамі часта было інакш, амаль усе яны выхаваныя ў польскамоўным асяроддзі. Праблема таксама ў ментальнасці. У сённяшні час культура для многіх маіх сяброў мала істотная, іх цікавіць перш за ўсё тэхналогія.

**«Белы лес»:** — *А зараз у нас канкрэтнае пытанне. Вось пішаш верш і Табе не хапае беларускіх слоў. Што тады робіш?*

**Наталля Васько:** — Я мушу сказаць, што мне напісаць верш на польскай мове вельмі цяжка. Папраўдзе, я напісала толькі адзін верш па-польску. Калі я пішу па-беларуску, мне заўсёды хапае слоў, таму што я думаю па-беларуску. Пішу ад сэрца, а тады думкі самі прыходзяць...

**«Белы лес»**: — *Памятаеш свой першы верш?*

**Наталля Васько:** — Так, гэта быў верш пра мядзведзя і ваду. Гэта быў просты верш.

**«Белы лес»**: — *Адкуль Ты бярэш натхненне для пісання?*

**Наталля Васько:** — Як я ўжо сказала, проста не люблю сядзець, заўсёды нечым займаюся, нешта раблю. Калі ідзе пра вершы, то я хачу ў кожным з іх нешта перадаць, але не пішу механічна, чакаю аж прыйдзе так званая «вена». Найлепшыя вершы пішуцца спантанна.

Я люблю таксама маляваць. Найчасцей малюю цэрквы. Для мяне рэлігія таксама важная, як беларуская культура.

**«Белы лес»**: — *Якая ў цябе рада для нас, каб добра і цікава правесці Сустрэчы «Зоркі»?*

**Наталля Васько**: — Трэба карыстацца тым, што тут маеце. Памятайце, што кожны з вас ужо нешта робіць і вы тут можаце развівацца. Не бойцеся пісаць! Памятайце, не проста пісаць твор, але не трэба гэтага баяцца.

**«Белы лес»:** — *Хто для цябе з’яўляецца героем беларусам?*

**Наталля Васько:** — Я думаю, што такім героем для мяне будзе мая бабуля. Яна так шмат пераказала і многа мне пераказала. Я заўсёды магу да яе прыйсці. Яна мяне разумее, падтрымлівае, заўсёды параіць, што рабіць. Я не ўяўляю жыцця без яе! Яна заўсёды была ў маім сэрцы. Мне проста не хапае слоў, каб перадаць словамі, якая яна важная для мяне.

**«Белы лес»:** — *На якія збіраешся студыі?*

**Наталля Васько:** — Захапляе мяне матэматыка, таму думаю ісці ў гэтым кірунку.

**«Белы лес»:** — *Зычым удач і новых твораў!*

**Наталля Васько:** — Дзякую!

**Арацавалі**
*Кандрат Косцін*
*і Малгажата Астроўская*

---

*Габрыся Вільдовіч,*
*Школа ў Гарадку,*
*рэдакцыя «Нараўчанская ластаўка»*

## *Засуха*

*у шуме дрэў цішыня*
*расплылася*
*думка кожная*
*толькі сіняе неба засталося*

*і нічога іншага*
*няма*
*гіне жыво*
*вады таксама*
*няма*
*вялікая бяда*

*і так раптам*
*у адну хвіліну*
*прывяло хмару вялікую*
*у людзей уступіла надзея*
*гэта дождж завітаў да сям’і*

---

## УВАГА КОНКУРС!
## № 25-18

**Ляціць ракета,**
**дыму не мае,**
**на руку сядзе,**
**балюча кусае.**
**А..**

**(Сустрачанская газета «Бусел»)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 1 ліпеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 21-2018: рыба.**

**Узнагароды, кашулькі з лагатыпам «Сустрэч „Зоркі”», выйгралі Шыман Івановіч і Алеся Буткевіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока. Віншуем!**

---

## Польска-беларуская крыжаванка
## № 25-18

**Польска-беларуская крыжаванка № 25-2018**

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 21-2018:**

Прасвет, мір, касілка, азёры, рост, стук, бант, ямаец, ранак, сынок, яз. Карак, азон, сёстры, спірт, вілы, яно, смак, мастак, ар, акцыя.

Узнагароды, фламастары, выйгралі **Матэвуш Цімашук, Ігар Чэховіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Аляксандра Куптэль** з Арэшкава. Віншуем!

Paź, Okolica, Komplet, Woda, Nietoperz, Siedem, Halo!, Żaba, Zebranie, Om, Upał, Deszcz, Chmura, Mak, Od, Dron, Narew, Do

# «Журавінкам» — 40 гадоў!

**Сёння, 16 чэрвеня 2018 года, у Агароднічкі ніяк не заехаць аж да вечара. Будуюць новы шлях у Супрасль, а па-за святліцай, дэпо і спортпляцоўкай, дзе адбываюцца «Спяванкі» і іншыя арагодніцкія фэсты — новая кальцавая дарога.**

Агароднічкі Супрасльскай гміны — вёска ў васьмі кіламетрах ад Беластока. Едучы хвілін дзесяць-пятнаццаць ледзь заўважыш, што ты апынуўся ў сяле. Добра тут пабудавацца — рукой падаць у Беласток. І „адпачынкова” тут: сапраўдныя горы (ну, можа горкі). На раскапанай жвіроўні быў тут сапраўдны сноўпарк. У 2004 годзе праводзіўся тут першы агульнапольскі чэмпіянат па гарналыжным спорце. Быў гарналыжны схіл вышынёю ў 200 метраў, штучна заснежваны і асветлены, які прыцягваў беластачан. На гару лыжнікі ўцягваліся пад'ёмнікам-орчыкам. Лыжны пад'ёмнік даўно разабраны. А людзі і цяпер ахвотна прыязджаюць на азерцы, што засталіся ад жвіровых кар'ераў. Уласнікам гэтай тэрыторыі з'яўляецца Супольнасць вёскі Агароднічкі — „wspólnota gruntowa” вёскі. А новыя людзі будуюцца, штораз больш у вёсцы дзяцей і моладзі.

Супольнасць вёскі разам з Гмінным асяродкам культуры, спорту і адпачынку ў Супраслі арганізуе цяпер свае мерапрыемствы, між іншым, сямейныя пікнікі „Спяванкі”. Гміна фінансуе гэтыя мерапрыемствы, маюцца і спонсары. Кажа радны Даніла Садоўскі: «Каб не Клуб вясковых гаспадынь (і яго ўнукі), не з'язджалася б так шмат гасцей і з Беластока, і з суседніх гмін, таксама шмат выступоўцаў».

— Сёлета на саракагоддзе «Журавінак» Супрасльская гміна раскашэлілася, дала на імпрэзу, прыём, купіла нам новыя строі! — кажа заўсёды непаседная Лідзія Матэйчук, якую завуць тут Лількай. Яна амаль тры дзясяткі гадоў была тут лістаношкай, гаспадыняй і спявачкай калектыву „Журавінкі”, які ўсе імпрэзы, на якіх выступае, робіць беларускімі. — Спяваем сорак гадоў фальклор, але і свае песні па-беларуску (і па-польску пра Падляшша і родную вёску, калі выступаем у Польшчы) на словы Ніны Панкевіч. А найбольш пра нашы інтарэсы дбае радны Даніла Садоўскі. Ён і сёння на саракагоддзі «Журавінак» завіхаецца як гаспадар.

Яшчэ на трыццацігоддзі калектыву „Журавінка” (2008 год) святліца, што побач дэпо, выглядала іначай. Цэнтр культуры і адпачынку ў Супраслі — пераможца конкурсу, аб'яўленага Нацыянальным цэнтрам культуры — на сваю канцэпцыю Цэнтр лакальнай культуры ў Падляшскім ваяводстве з праектам „Гміна Супрасль: малая айчына — вялікі свет” атрымаў больш амаль 3 мільёны злотых датацыі на 2010-2012 гады і апрацаваў сістэму, якая ахоплівае ўсю гміну, з аднаўленнем святліц, з выкарыстаннем разнароднага культурнага і мастацкага патэнцыялу ўсіх жыхароў і кантакту ўсіх іх з мастацтвам. Праект меў стварыць сістэму мікрадамоў культуры з існуючых у гміне шасці святліц у форме Гмінных мастацкіх майстэрняў, кіраваных цэнтрам з Супраслі. Майстэрні так абсталяваныя, каб прапанаваць розныя формы заняткаў — мець камп'ютарныя залы, абсталяванне для тэатральных, канцэртных, мастацкіх, спартыўных, фільмавых дзеянняў, мець таксама кухонны анекс, эстэтычныя туалеты, экспазіцыі для выстаў унутры і вонкі. І святліца цяпер — „як шклянка”. Адбываюцца новыя дзеянні ў рамках праекта — тэатральна-перфарматыўныя, музычна-літаратурныя, мастацкія майстар-класы, аб'язное кіно. Рэалізуюцца пляцоўкі для гульняў дзяцей, прэзентацыі, майстар-класы, інтэграцыйныя імпрэзы. Сучасным домам культуры святліца ў Агароднічках стала ўжо ў 2007 годзе, а „Журавінкі” запрашаюць не толькі на сустрэчы гуртка вясковых гаспадынь, але і на вядомыя ў ваяводстве летнія „Пікнік з «Журавінкамі»”, „Падляшскую спяванку”, Дзень жанчын для сеніёраў, вечарыны аматарскіх тэатраў, Дзень зямлі ды індывідуальныя і калектыўныя чэмпіянаты Польшчы інвалідаў руху па шахматах.

Многа выступалі, часам гурт быў няпоўны, пабіты хваробамі, горам. Яны ж немаладыя. Запрасілі былі іх у Варшаву на з'езд ПСЛ. Прадстаўляў Збігнеў Ліпскі: „My — z Podlasia”. А „Журавінкі” заспявалі „Люблю наш край, старонку гэту”. „Журавінкі” ўзніклі як аматарскі фальклорны калектыў у 1978 годзе. Заснавальніцай і старшынёй калектыву была Ванда Матэйчук, пасля вяла яго Ніна Аўгустыновіч, а потым — Лідзія Матэйчук.





— Ідэя нарадзілася ў гуртку вясковых гаспадынь, — кажа спадарыня Лідзія, якая ўжо крыху акрэпла пасля цяжкай хваробы. — Спачатку спявала ў нас дзесяць кабет. Спяваем мы перш за ўсё па-беларуску, ведаем таксама і польскія, і ўкраінскія песні. Ахвотна ўдзельнічаем ва ўсіх беларускіх фестывалях, фэстах, кірмашах. Здабылі мы шмат адзнак і вылучэнняў. Чатыры спявачкі ўжо адышлі ад нас на той свет... Было радасці вельмі многа ў нашай дзейнасці. Было ў той час нашых калектываў яшчэ мала. А быў такі час, гады тры, калі мы з Нінкай, удзвюх, самі выступалі, каб не спынілася дзейнасць, ездзілі з Таварыствам, не прапускалі ні аднаго беларускага мерапрыемства.

На сцэне на абшырнай пляцоўцы за пажарным дэпо можна было пазахапляцца выступамі дзяцей са школьна-дашкольнага комплексу ў Агароднічках, канцэртам фальклорных калектываў і моладзевых ансамбляў. Увечары былі танцы. На працягу дня праводзіліся гульні і забавы для дзяцей. Вёска шалела пад песню «Вёсачка мая»...

Пікнік адбываўся пад апекай добраахвотнай пажарнай каманды — сяррод пажарнікаў гонар Агароднічак — чэмпіёнка свету ў лятанні на паветраным шары Іаланта Матэйчук, якая апекавалася мерапрыемствам. На пікніку было сапраўды па-свойску, па-беларуску. Бо як жа іначай размаўляць з сябрамі з Васількаўскай гміны, што прыехалі па-сяброўску парадаваць па-свойму — з «Дамброўкай» з Дамбровак, «Мальвянкамі» са Студзянак, якія заўсёды маюць у рэпертуары беларускія песні? Часам перапрацаваныя з украінскіх ці рускіх, як «Лёс», «Вечарок», але ўжо здаўна свае, народныя. І ўсе цешыліся, і віншавалі цётачак і бабуль з «Журавінак».

— Сорак гадоў гэта мноства гадоў, калі вы цешыліся самі і цешылі нас сваёй песняй, але гэта таксама сорак гадоў рэпетыцый, выездаў, працы, — сказаў віцэ-маршалак Мацей Жыўна, які ад імя Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і маршалка Ежы Ляшчынскага ўручыў калектыву памятную табліцу, падарунак-бон на закупку новых народных строяў, а дзвюм мастачкам, якія спяваюць ад пачатку ў калектыве — памятныя граматы: Лідзіі Матэйчук і Ніне Матэйчук. Узнагароды — віншавальныя лісты, граматы, агромныя кашы з падарункамі былі ад маршалка, Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, палітыкаў з дэпутатам Мечыславам Башко, які з ахвотай прымае ўдзел у агародніцкіх мерапрыемствах, еўрадэпутаткі Барбары Кудрыцкай, пажарніцкай грамады, сяброў з калектываў, ад моладзі і дзяцей...

— Перадайце свой вопыт, добрыя флюіды іншым з нашай вёскі. Бачыце, колькі нас, моладзі таленавітай? Віншуем і дзякуем, што вы з намі, — абымала спявачак самая высокая ў вёсцы Іаланта Матэйчук.

Бургамістр Супрасля Радаслаў Дабравольскі нават заспяваў, пачаўшы «Многа лета», улюбёную сваю песню «Żurawie» на музыку і словы Язэпа Карпюка з Сямятыч. («Наш бургамістр, калі мы выступаем, падспеўвае разам з намі на сцэне!» — адзначыць пасля Лідзія Матэйчук):

— Віншуем «Журавінак» а таксама тых, хто іхнюю пакаленную палачку пераймае — вось гэтай моладзі і дзеткам, маладым спевакам калектыву славянскай песні з новага гурта ў Агароднічках, які вядзе Міраслава Ціханюк, — і перадаў спецыяльны гравертон ад Супрасльскай гміны з нагоды юбілею калектыву за развіванне музычнай культуры і падтрымліванне традыцыі.

— А яны таму сорак маюць, бо так разам з нашымі гурткамі спяваюць, — рыфмавала сваё віншаванне ваяводская старшыня Гурткоў вясковых гаспадынь Валя Адамская, дачка Грышы Трашчоткі — настаўніка Віктара Шведа.

Далучылася таксам Беларускае грамадска-культурнае таварыства да віншаванняў аднаму з найстарэйшых на Беласточчыне беларускіх калектываў, які ад самага пачатку бесперапынна прымае ўдзел у музычным жыцці нашага старонне. Віншавальныя словы выказаў намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень:

— «Журавінкі» ад самага пачатку вельмі цесна звязаны з беларускай культурай, якая на Падляшшы прысутная ад вякоў. «Журавінкі» вельмі актыўна ўдзельнічаюць ва ўсяляких мерапрыемствах беларускай культуры, за што ім вельмі дзякуем і запрашаем да працягу далейшага супрацоўніцтва. Паважаныя «Журавінкі»! Юбілей вашага калектыву гэта выдатная нагода, каб выказаць вам шчырыя словы ўдзячнасці за бязмежную любоў да бацькоўскай зямлі і да блізкай чалавечаму сэрцу беларускай песні і сваёй малой айчыны, падзякаваць за каштоўны, вельмі важкі ўклад у скарбніцу роднай культуры. Ваша дзейнасць у галіне папулярызацыі старых народных песень, захавання народных беларускіх традыцый, абрадаў і звычаяў гэта сведчанне глыбокага лакальнага патрыятызму, які заслугоўвае на самыя лепшыя словы пашаны і падзякі. Не шкадуючы сіл і здароўя, на працягу ўжо некалькіх дзесяцігоддзяў вы дорыце суайчыннікам вялікую радасць ад сустрэчы з роднай музыкай і песняй, вучыце глыбокай пашаны да нашай культурнай мінуўшчыны, сваёй бязмежнай адданасцю ўсяму роднаму залатымі літарамі пішаце гісторыю мастацкага аматарскага руху на Беласточчыне. Здароўя вам і шчасця, і ўсялякага дабрабыту, натхнення і аптымізму, поспехаў на чарговыя гады творчай дзейнасці, плёну ва ўсіх пачынаннях, здзяйснення мараў у асабістым жыцці. Няхай добры настрой, мір і згода спадарожнічаюць вам пастаянна і няспынна, а вашы песні назаўсёды гучаць у культурнай прасторы нашай радзімы, адклікаючыся асалодай у душах гледачоў і слухачоў!

Віншуем!

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

Юрка БУЙНЮК

# Гісторыя хіта «Ты думай, думай»


Фота Міры ЛУКШЫ

Калісьці ў адным вершы вядомая беларуская паэтэса з Падляшша Зоя Сачко вельмі мудра пісала на маёй роднай падляшскай мове «Kob pieśniu znali, a muzykanta ne czuli». Менавіта таму я як меламан і знаўца нашай славянскай песні з Беласточчыны хачу пачаць новую рубрыку ў «Ніве» пра нашу прыгожую беларускую музыку і нашых таленавітых музыкантаў, слаўных не толькі на нашай роднай Беласточчыне, але ва ўсім свеце. Так, у свеце, таму што ў Славакіі выканаўца Матуш Варга (Matus Varga) спявае аўтарскія песні нашых беластоцкіх гуртоў «Ас» і «Дубіны», а на канале Youtube нейкім цудам жыхары Украіны ведаюць песні гурта «Ас». Сёння найбольш слаўным на Падляшшы і ва ўсёй Польшчы, а таксама на Беларусі, у Бельгіі, Эстоніі і Расіі з'яўляецца наш беларускі ансамбль «Прымакі» з Гарадка. «Прымакі» запісалі 5 аўдыёкасет: «Зорка ясная» (1997), «Цыганка» (1998), «Братка беларус» (1999), «Ты і я навекі» (2000) і «Мой родны кут» (2004), а таксама пяць кампакт-дыскаў: «Братка беларус» (2000, выдадзены на Беларусі), «Ты і я навекі» (2000), «Мой родны кут» (2004), «Маміна сарочка» (2009) і «Ты думай, думай» (2014). «Прымакі» таксама як адзіны калектыў з Беласточчыны запісалі кампакт-дыск праваслаўных песень «Багагласнік» (лідар гурта «Прымакі» — сын бацюшкі, настаяцеля Праваслаўнага прыхода ў Гарадку). Таксама «Прымакі» запісалі два кампакт-дыскі і аўдыёкасету з беларускімі калядкамі.

Лідарам гурта, вакалістам і кампазітарам, а таксама аўтарам тэкстаў з'яўляецца Юрка Астапчук. Ён не толькі ўзначальвае «Прымакі», але з'яўляецца дырэктарам беларускага фестывалю «Сяброўская бяседа», які з 2003 года арганізуецца ў мястэчку Гарадок на Беласточчыне.

7 мая, пасля дня св. Юрыя, званю мастацкаму кіраўніку Юрыю Астапчуку і пытаю пра песню «Ты думай, думай» з аднайменнага кампакт-дыска:

**ЮРКА БУЙНЮК:** Турбуе Вас Юрка Буйнюк. Жадаю Вам усяго найлепшага з нагоды ўчарашняга Вашага Дня Ангела, жадаю ўсяго найлепшага ў Вашым асабістым і артыстычным жыцці. Хацеў бы Вам падзякаваць за Ваш вялікі ўклад у развіццё беларускай музыкі на Беласточчыне. Спадар Юрка, я званю да Вас у справе песні «Ты думай, думай» з кружэлкі «Прымакоў», якую Вы запісалі ў 2014 годзе. Калі ласка, раскажыце нам гісторыю гэтай песні.

**ЮРКА АСТАПЧУК:** Вас таксама віншую з учарашнім Днём Ангела — мы цёзкі. Мне няма за што дзякаваць, таму што я беларус і мне натуральна, што найлепш спяваецца на беларускай мове і гэта дае мне найбольшую радасць — спяваць беларускія песні для беларусаў усяго свету. Наконт песні «Ты думай, думай», дык музыка гэтай песні была мне даўно вядомая, папала мне ў вуха...

**Ю. Б.:** — Іонел Істраці, «Eu numai, numai», песня і кліп з 2012 года. Іонел Істраці — малдаванскі спявак (нар. 24 снежня 1990 года ў Кішынёве), дарэчы, пераможца румынскага шоў *The Voice*, спявае на малдаванскай і рускай мовах...

**Ю. А.:** — Дакладна так. Мы селі разам з Багуславай [Карчэўскай — вакалісткай — рэд.] і напісалі беларускі варыянт да музыкі гэтай песні і так песня з'явілася на нашым кампакт-дыску «Ты думай, думай» з 2014 года.

**Ю. Б.:** — Ад 2014 года мінулі чатыры гады і таму да Вас пытанне: калі наступная кружэлка гурта «Прымакі»?

**Ю. А.:** — Ідэй і задум у мяне на новы кампакт-дыск вельмі многа, але не хапае часу, каб сабрацца і запісаць новы альбом «Прымакоў». Да гэтага патрэбны не толькі час, але і творчы настрой.

**Ю. Б.:** — Жадаю Вам усяго найлепшага, не буду Вас турбаваць таму, што мо Вы на працы.

**Ю. А.:** — Я зараз адпачываю.

**Ю. Б.:** — Дзякуй за размову.

Чаму я пішу пра песню «Ты думай, думай»? Таму, што пару гадоў таму натрапіў на самы папулярны кліп да малдаванскай песні «Eu numai, numai». Кліп быў свойскі, таму што здымаўся на вёсцы — прыгожыя малдаванскія дзяўчаты, а да таго трактар «Уладзімірац Т25», на якім едзе малады хлопец і спявае на незразумелай мове. Сам сюжэт кліпа — так як бы зняты на нашым родным Падляшшы. Сам я падумаў, што першы з беларускіх гуртоў з Падляшша «пераробіць» гэтую песню і праспявае пабеларуску. Не мінула месяца, як я пачуў гэтую песню на Купаллі ў Белавежы. Нягледзячы на тое, што гэта не арыгінал, дык мне хацелася купіць кружэлку «Прымакоў» з песняй «Ты думай, думай». Я заўсёды купляю беларускія альбомы гуртоў з Беласточчыны — трэба сваіх падтрымліваць, бо хто ж як не мы маем купляць іх альбомы.

З чым асацыюецца мне песня «Ты думай, думай»? Са старым кавалерам з маёй вёскі, якога мая маці сватала з жанчынай, пазнанай на базары ў Бельску. Мама кажа яму, што знайшла яму добрую партыю, а ён: «Я шчэ подумаю». І так ён думае добрых пару гадоў... А колькі ж маіх равеснікаў ці сяброваk так доўга думае і думае, а гэта пра іх песня. Гэта ж самае жыццё, якое Юрка Астапчук трапна апісаў у гэтай песні.

А вось пераклад песні «Eu numai, numai» з малдаванскай мовы на рускую:

### «Я только с тобою»

I
Люблю тебя, и мне от этого не легче
Я качаюсь, как лист на ветру
Опять виноват я в чём-то,
И весь день как чужой я хожу.

Припеў:
Я только-только,
Только с тобою,
Столько ярких моментов
Было у нас.
Любимая, хорошая, ты — вся моя жизнь
И без тебя весь свет мне не мил.

II
Я не знаю, почему, любимая,
Тоскую так и что делать мне
Как подавить в себе это чувство —
Моё сердце пылает в огне.

Припеў 2 х
Я только-только,
Только с тобою,
Столько ярких моментов
было у нас.
Любимая, хорошая, ты — вся моя жизнь
И без тебя весь свет мне не мил.

III
Я надеюсь, любимая, мы не будем
Моменты прошлого вспоминать
И то будет великое счастье,
Если любишь ты меня.

Я только-только,
Только с тобою,
У нас было столько прекрасных моментов.
Любимая, хорошая, ты — вся моя жизнь
И без тебя весь свет мне не мил.

Я только-только,
Только с тобою,
Столько ярких моментов
Было у нас.
Любимая, хорошая, ты — вся моя жизнь
И без тебя весь свет мне не мил.

Я только-только,
Только с тобою,
Столько ярких моментов было у нас.
Любимая, хорошая, ты — вся моя жизнь
И без тебя весь свет мне не мил.

*Лёс беларусаў Беласточчыны*

# У Расіі нас чуць не з'елі ваўкі

**Вёска Кашкалы знаходзіцца за 5 кіламетраў на паўднёвы захад ад Дзятлава і 20 кіламетраў ад чыгуначнай станцыі Наваельня. Сюды і завітаў я ў пошуках беларусаў-рэпатрыянтаў з Беласточчыны, якія ў 1940-х гадах не па ўласнай волі пакінулі родныя мясціны.**


Зінаіда Хрэноўская


Хата гаспадыні ў вёсцы Кашкалы Дзятлаўскага раёна

У гэтай вёсцы жыве 85-гадовая Зінаіда Хрэноўская. Добрая хата, дагледжаны панадворак бачны здалёк. Адразу відаць, што тут жыве клапатлівая гаспадыня, якая не баіцца работы і любіць парадак і чысціню.

Зінаіда Хрэноўская ў Кашкалах у сваім доме жыве адна. Малодшы сын паехаў на заробкі ў Маскву, так пра яго і нічога не чуваць і невядома, дзе ён і ці жывы наогул. А другі сын жыве з сям'ёй у Беларусі, часта наведвае маці, тэлефануе, клапоціцца пра яе.

— Я родам з вёскі Залукі. У нас у Залуках быў свой уласны дом, гаспадарка. Сям'я наша была даволі вялікая — ажно 7 дзяцей. Я, праўда, тады ніякай палітыкай і справамі не цікавілася, куды ехалі бацькі і сваякі, туды і я. Мне ў 1946 годзе было 13 гадоў. Але памятаю, як мы не хацелі нікуды выязджаць: ні дзеці, ні мама з татам, — пачала распавядаць пра мінулае Зінаіда Хрэноўская.

— З Залукаў ваша сям'я адразу прыехала на Дзятлаўшчыну? — пытаюся.

— Ды не. Нас накіравалі далёка ў Расію, ажно ў Саратаўскую вобласць.

— І як там вас, беларусаў, сустрэлі?

— О, гэта быў няпросты час для нашай сям'і. Мы пасяліліся ў нейкай вёсцы, здаецца. Памятаю, што там мы галадалі. А яшчэ ў гэтай вёсцы і ў наваколлі было шмат галодных ваўкоў. Мы, дзеці, баяліся выходзіць на вуліцу не толькі вечарам, але і днём, бо ўсюды было многа ваўкоў. Ды і дарослыя іх баяліся. Былі там галодныя і людзі, і ваўкі. А аднойчы яны нас чуць не з'елі. Мы цудам засталіся жывыя. Я пра гэта добра памятаю.

— А як вы вярнуліся на Бацькаўшчыну?

— З Беласточчыны выехала шмат нашых сваякоў. Мы пачалі пісаць пісьмы і знайшлі аднавяскоўцаў на Дзятлаўшчыне, якія нас і запрасілі сюды і мы адразу паехалі. Прыехалі на станцыю Наваельня, а потым спыніліся ў вёсцы Кашкалы, дзе і пражылі усё жыццё, дзе я і цяпер жыву. Усё жыццё працавала ў калгасе, сёння на пенсіі.

— Ці захаваліся ў вас якія-небудзь фотаздымкі з Беласточчыны, дзе вы жылі да 1946 года?

— Не, нічога не захавалася ад усіх вандровак па Расіі, а потым ад няпростых дарог вяртання дамоў на Радзіму, шмат чаго згубілася. Можа што дзе і было, але я не памятаю. Мы людзі былі вельмі простыя, жылі, працавалі ў калгасе, гадавалі дзяцей, марылі, каб хоць ім было добра жыць і не цягацца па свеце, каб толькі іх ніхто не выганяў з роднай зямлі.

Калі я развітваўся, папрасіў спадарыню Хрэноўскую, каб яе сфатаграфаваць, але яна катэгарычна адмовілася: „Я ўжо старая, непрыгожая, хворая. Навошта мяне такую здымаць...". Тым не менш я адзін кадр паспеў зрабіць. Як атрымалася — так атрымалася.

Тэкст і фота
Сяргея ЧЫГРЫНА

# Першае паўгоддзе 2018 г.

Васіль САКОЎСКІ



Здаецца, зусім нядаўна аптымістычна пачыналі мы гэты год... А ўжо паўгода за намі, так хутка пачаў уцякаць час адведзены нам. Найбольш востра і балюча пачынаем адчуваць гэта ў старэйшым узросце. Відаць, час і раней так хутка пёр, але, будучы маладымі, мы не мелі часу і ахвоты задумвацца над яго хуткацечнасцю, бо здавалася тады, што маем яшчэ час. Усё жыццё ці вялікая частка яго яшчэ перад намі. І так непрыкметна даехалі мы аж да самой старасці...

Нядаўна я быў на паховінах жонкі майго дваюраднага брата, які адышоў ад нас значна раней. Менавіта на такіх урачыстасцях я ў асноўным бываю цяпер і маю магчымасць сустрэцца там з бліжэйшымі і далейшымі сваякамі. Паховіны былі традыцыйныя, урачыстыя, мнагалюдныя. Кленіцкая царква вялікая, прыгожая, дагледжаная. Бацюшкі і пеўчыя галасістыя, а акустыка ў царкве проста незямная. Вось так урачыста адпявалі, развітваліся і хавалі пакойніцу. Трэба сказаць, што ніякія свецкія, партыйныя ці нават вайсковыя пахаванні не параўнаць з нашымі традыцыйнымі царкоўнымі жалобнымі ўрачыстасцямі. Яны не толькі не выклікаюць столькі шляхетных пачуццяў, эмоцый і не выціскаюць столькі шчырых слёз, як царкоўныя пахаванні. І так павінна быць — гэта ж развітанне навекі з жыццём, сям'ёй, раднёй і блізкімі. Бо ці ўдасца нам яшчэ дзесьці сустрэцца? І ці ўсе мы туды пападаем — невядома...

Кленіцкія могілкі знаходзяцца ў прыгожым, ціхім месцы. Яны добраўпарадкаваныя, дагледжаныя і мне не чужыя, хоць я на іх, на жаль, рэдка бываю, у асноўным на паховінах. А там пакоіцца амаль уся радня па мамінай лініі. Вось пры такіх нагодах я адведваю магілкі дзедаў-прадзедаў, хрышчоных бацькоў і ўсіх пакойных родзічаў. Запальваю на іх лампадкі, успамінаю кагомагу ўспомніць ды паціхеньку малюся. Так было і гэтым разам — мы з жонкай наведалі іх. Пра Кленікі і іх могілкі трэба сказаць і тое, што вёска прыгажэе, багацее, але, як у нас кажуць — вылюдняецца (у сэнсе паменшаецца лік жыхароў). Могілкі таксама прыгажэюць, але штораз шчыльней залюдняюцца. Такая сумная перспектыва ўсіх нашых тутэйшых вёсак. Жаль...

Потым быў абед у кленіцкай вялікай і прыгожай святліцы. І там можна было дакладней пагаварыць, рашыць сваяцка-жыццёвыя справы. Падышоў я да дваюраднага брата, а ён смутны, нейкі прыбіты. Я і стаў яго суцяшаць:

— Ну, не перажывай аж так, Ваня. Канешне. Шкада, усё-такі памёр нам блізкі і дарагі чалавек. Але не ўсім даецца пражыць такое некароткае і даволі безабіднае жыццё. Нарадзіць і вырасціць вельмі добрых і разумных сыноў, дачакацца і цешыцца ўнукамі і нават праўнукамі, няхай зямля ёй будзе пухам...

— Я не пра пакойніцу, а пра сябе так смуткую, — адказаў ён. — Прыглянуўся я нашай пахаронна-сваяцкай кампаніі і атрымалася, што з усіх нас я найстарэйшы, чуць не равеснік пакойніцы — як тут не засмуткуеш?..

Я пачаў суцяшаць яго... А глыбей задумаўшыся над яго словамі — і сам засмуткаваў. І дасюль не выходзіць з маёй галавы сказанае Ванем. Я мала маладшы за яго...

Пакінем, аднак, сумную тэму аб пакойніках. І, канешне, любіць, шанаваць і памінаць трэба. Дружыць аднак з імі ніяк не ўдасца, бо мы знаходзімся ў розных вымярэннях.

Значыць, давайце пяройдзем у нашае вымярэнне і прыглянемся, як праходзіць нам першае паўгоддзе бягучага года. Пачнем, канешне, з нашай краіны.

У нас надалей поўнай парай ідзе перабудова айчыннай гаспадаркі і краіны на новы (ПіСаўскі) лад і стыль. Не зменшыўся тэмп яе перабудовы нават тады, калі паадбіралі ў нашых міністраў і іх высокага кіраўніцтва высокія ўзнагароды, атрыманыя імі за цяжкую іх працу. Адны змены адбываліся зусім гладка, іншыя менш гладка. Але здараліся, на жаль, і цяжкасці, і нават канфузы...

Ніяк, напрыклад, нашы ўлады не могуць дайсці да ладу з еўрапейскім кіраўніцтвам. Не падабаюцца еўрапейцам нашы новыя правы-законы. Не падабаецца ім як мы гаспадарым нашай Белавежскай пушчай і многае іншае ім не падабаецца ў нас. Яны любяць павучаць нашых чыноўнікаў, крытыкаваць і страшыць фінансавымі карамі. Чаго ў сваю чаргу вельмі не любяць нашы палітыкі і чыноўнікі...

Наступнай заганнай справай з'яўляецца тое, што актывізуюцца ў нас крайнія правыя сілы, уключна да прафашысцкіх. Арганізоюць яны свае з'езды, гучныя маршы ды ўрачыстыя святкаванні сваіх важных дат, напрыклад, дзень нараджэння Адольфа Гітлера. Нядобра дзеецца таксама і на нашых спартыўных стадыёнах. Там лжэбалельшчыкі робяць «задымы», авантуры, бойкі, пажары...

Наступнай падзеяй, якая шырокім рэхам пракацілася па нашай краіне, была забастоўка нашых маладых людзей з абмежаванымі працяг ☞ 11




Мінула ўжо больш за чвэрць стагоддзя як Беларусь стала незалежнай краінай, а беларуская мова па-ранейшаму не ў пашане як ва ўладзе, так і ў насельніцтва. Што зробіш — беларусы гэта не жыды і не цыганы, якія нават пры адсутнасці ўласнай дзяржавы праз стагоддзі былі і застаюцца здольнымі захаваць сваю мову і культуру. Бо яны, у адрозненні ад беларусаў, не маюць праблем з уласнай нацыянальнай ідэнтычнасцю.

Таму перад беларускай нацыянальна свядомай інтэлігенцыяй стаіць звышцяжкая задача — прышчапіць свайму народу павагу да ўласнай мовы, культуры, гісторыі. Ці ўдасца гэта зрабіць — невядома, магчыма і не, але паспрабаваць варта. З гэтага пункту гледжання чарговай „нацыястваральнай" спробай можна разглядаць і нядаўнюю рэгістрацыю беларускімі ўладамі Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча — недзяржаўнай вышэйшай навучальнай установы. На пачатку чэрвеня з'явіўся і сайт універсітэта, які цяпер месціцца па адрасе **http://nhu.by.**

Віртуальнае прадстаўніцтва першага беларускамоўнага ВНУ выглядае па-сучаснаму. Выйсці на рубрыкі сайта знаходзяцца з левага боку цэлага выяўлення, а справа ўсё астатняе месца займаюць асноўныя паведамленні кожнай з іх.

„Мэтай дейнасці ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча з'яўляецца прадастаўленне беларускай моладзі магчымасці атрымання вышэйшай адукацыі на беларускай мове, а таксама забеспячэнне кадравага і навуковага патэнцыялу інавацыйнага развіцця Рэспублікі Беларусь на аснове спалучэння нацыянальных традыцый беларускага народу і перадавога міжнароднага вопыту", — распавядаецца на галоўнай старонцы.

Найбольш цікавай, але не да канца напоўненай інфармацыяй, з'яўляецца рубрыка „Пра ўніверсітэт". Так, у падрубрыцы „Аб праекце" даецца тлумачэнне неабходнасці стварэння такой установы, коротка аналізуецца стан спраў з так званай нефармальнай адукацыяй у Беларусі. Цікавым у гэтым дачыненні з'яўляецца ацэнка дзейнасці Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, калісьці пазбаўленага магчымасці працаваць у Беларусі і пераехаўшага ў Вільню. „Вялікія спадзяванні ў свой час беларуская грамадскасць ускладала на Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт, як на праект, які ўвасобіць спалучэнне дэмакратычных традыцый заходніх універсітэтаў і нацыянальнай культуры. Але, на вялікі жаль, сярод кіраўніцтва і выкладчыцкага калектыву там запанавалі настроі і погляды, традыцыйныя для акадэмічнай супольнасці савецкай імперскай прасторы, дзе мовай адукацыі і культуры было прынята лічыць рускую мову, і дзе заўсёды жывілася пагарда да «правінцыйных» нацыянальных моў. Таму апошнім часам пры Таварыстве беларускай мовы была створана ініцыятыўная група па заснаванні сучаснага нацыянальнага ўніверсітэту, дзе асноўнай мовай зносін і навучання была б беларуская мова", — адзначаецца на сайце стваранага ўніверсітэта.

Пакуль Нацыянальны ўніверсітэт яшчэ не працуе, але падрыхтоўчая праца бурліць. Так, ужо ў верасні ён распачынае курсы падрыхтоўкі для цэнтралізаванага тэставання. А ў перспектыве ўніверсітэт плануе рыхтаваць спецыялістаў у галіне міжнароднага краіназнаўства, гісторыка-культурнай спадчыны, сучаснай электроннай журналістыкі, літаратурнага пісьменства, урбаністыкі, IT-тэхналогій і бізнес-мэнэджменту.

Аляксандр ЯКІМЮК




## 85 гадоў з дня расстрэлу
## Мікалая ШАМЯЦІЛЫ

Упершыню пра расстралянага НКВД праваслаўнага епіскапа Мікалая Шамяцілу давялося прачытаць у даследаваннях савецкіх сталінскіх рэпрэсій незабыўнага рупліўца праўды Леаніда Маракова. Пазней нарыс пра гэтую асобу змясціў пісьменнік Уладзімір Арлоў у „Імёнах Свабоды".

Дакладная дата нараджэння святара дагэтуль невядомая. Нарадзіўся Мікалай Шамяціла ў 1877 г. у вёсцы Аброва Пінскага павета (цяпер Івацэвіцкі раён). Паходзіў са шматдзетнай сям'і праваслаўнага святара Івана Шамяцілы. Скончыў Пінскае духоўнае вучылішча, прыблізна ў 1897 г. у ліку лепшых выпускнікоў Мінскую духоўную семінарыю. Неўзабаве ажаніўся. У 1899 г. рукапаложаны ў іерэя. Прызначаны настаяцелем Параскева-Пятніцкай царквы вёскі Мясяцічы Пінскага павета. З 1902 г. выкладаў Закон Божы ў Мінскім жаночым вучылішчы па вуліцы Шырокай. З 1903 г. настаяцель Свята-Троіцкага храма вёскі Белавуша Пінскага павета (цяпер Столінскі раён).

У 1904 г. Шамяціла паступіў у Маскоўскую духоўную акадэмію, якую скончыў са ступенню кандыдата багаслоўя ў 1908 г. Вярнуўся ў Беларусь. Служыў у Міхайлаўскай царкве ў Востраве паблізу Слуцка. У красавіку 1914 г. прызначаны настаяцелем Слуцкага Мікалаеўскага кафедральнага сабора, старшынёй Слуцкага аддзялення Епархіяльнага вучылішчнага савета з наданнем сану протаіерэя. У час польска-савецкай вайны 1919-20 гг. падтрымліваў кантакты са Слуцкім беларускім нацыянальным камітэтам, культурна-асветніцкім таварыствам "Папараць-кветка". Выказваў ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння. Хоць дакументы пра сувязі айца Мікалая з кіраўнікамі Слуцкага збройнага чыну не захаваліся, можна сказаць, што яго незалежніцкія казанні ўмацоўвалі патрыятычны дух случчакоў і прывялі многіх з іх у шэрагі паўстанцаў. У студзені 1920 г. рэзідэнт Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта па Слуцкім павеце Андрэй Бараноўскі ў адной са сваіх справаздач не без здзіўлення пісаў у менскую ўправу ЧБНК: „Знайшоў у Слуцку прыхільніка беларускага, папа, які з амбону гаварыў сялянам а Беларусі і а патрэбе яе незалежнасці. Дэкляраваў і далей настаўляць сялян у гэтым кірунку. Прасіў прысылаць газету і літаратуру".

У пачатку 1920 гг. Мікалай Шамяціла ідэйна зблізіўся з прыхільнікамі аўтакефаліі праваслаўнай царквы Беларусі — епіскапам бабруйскім Філарэтам (Раменскім), святаром Уладзімірам Бірулем. Погляды святара не маглі прайсці міма карнай сістэмы. Першы раз Шамяцілу арыштавалі ў 1926 г., пазней адпусцілі. У 1929 г. арыштавалі яго сына, які служыў псаломшчыкам, засудзілі на тры гады канцлагера. Па сведчанні святара Валерыяна Навіцкага, у канцы 1920-х гг. уладыка Мікалай зусім аглух ад нервовых перажыванняў. Аднак надалей выконваў святарскія абавязкі.

У 1933 г. асобай нарадай пры АДПУ Мікалай Шамяціла засуджаны за „контррэвалюцыйную прапаганду і агітацыю" і як „кіраўнік Слуцкага контррэвалюцыйнага філіяла арганізацыі «Езуіт»" да 8 гадоў савецкага канцлагера. Абвяшчэнне свайго прысуду ён перажыў усяго на два тыдні. Афіцыйная дата смерці — 23 чэрвеня 1933 г. Згодна адной з версій, уладыка Мікалай памёр ад тыфу, згодна другой — быў расстраляны ці закатаваны ў Менскай турме і таемна пахаваны на гарадскіх лютаранскіх, так званых Нямецкіх могілках. Паводле савецкай завядзёнкі могілкі тыя з часам ператварыліся ў сквер (цяперашняя вуліца Купрыянава ў беларускай сталіцы).

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

магчымасцямі, іх бацькоў, апекуноў дзеля паляпшэння іх быту. Яны занялі частку сеймавага будынка і акупавалі яго цэлых сорак дзён, не зважаючы на розныя перашкоды з боку адпаведных службаў. Чаго толькі не рабілі гэтыя службы, каб выкурыць іх з сеймавага будынка перад меўшайся адбыцца ў гэтым будынку НАТАўскай сесіяй. І не выкурылі. Выйшлі з будынка толькі тады, калі самі рашылі. Цяпер многія палітыкі публічна перажываюць, што не ўмелі дагаварыцца з імі. Вось такім больш-менш было ў нас першае паўгоддзе бягучага года...

Надалей трывожаць канфлікты паміж Украінай і Расіяй, бо там жывуць блізкія нам людзі. І гэты канфлікт у нейкай ступені пагражае ўсім нам. Колькі ўжо гадоў ідзе там вайна — непатрэбная і бяздумная. Гінуць нявінныя людзі і з цяжкасцямі нажытае імі дабро. І хоць пакуль яшчэ гібрыдная яна, але ўсё ж такі вайна, і можа стаць яна поўнамаштабнай. Вось і думаецца, як маглі братнія суседскія народы і іх кіраўнікі дапусціць да вайны? Ці ж яшчэ мала нацярпеліся яны розных войнаў, голаду і холаду, каб пачаць ужо новую, братазабойчую вайну?!.

Назіраючы за «независимой» ужо Расіяй і «самостійной» Украінай складваецца ўражанне, што час сваёй «независимости» і «самостійності» яны выкарысталі не найлепей. Развіццё Украіны тармазілі розныя ўнутраныя разборкі ды майданы... А Расія замест хутка перабудоўваць сваю адсталую гаспадарку на «процветающую», старалася спачатку перабудаваць «по своему образцу и подобию» іншыя краіны. Сваю гаспадарку пакінула самой сабе. А сталася: абедзве братнія краіны тупаюць на месцы, усю сваю злосць вымяшчаючы адна на другой. Аж смешна слухаць, як расіяне напрошваюцца са сваёй нафтай і газам і «северно-южными потоками». Выглядае на тое, яны проста гатовы ўсю сваю нафту і газ запіхнуць у «трубо-проводы-потоки» і адправіць іх ва ўсе бакі і накірункі свету. За мілыя ім долары і еўра, канешне. Бо рубельчык так моцна пахудзеў...

А што тады застанецца для наступных пакаленняў расіян?!.




# 24.06 — 30.06

**(22.03. — 20.04.)** Можаш далёка зайсці пры нагодзе трансфармуючага Плутона! Карыстай з нагоды, можа табе шмат чаго дастацца. Вельмі добры тыдзень у фінансах. Шмат мілых людзей, хоць не ад усіх чакай падтрымкі. 23-27.06. зважай на асобы, з якімі пазнаёмішся. 26-30.06. з-за нецярплівасці таваё рашэнне будзе некарыснае; твае чаканні і паводзіны партнёра могуць размінуцца. Масажуйся, напрыклад кітайскай банкай.

**(21.04. — 21.05.)** Можаш быць расчараваны, не ўсе цябе зразумеюць, могуць падвесці сябры. Затое ў фінансах з горачкі; могуць дастацца табе неспадзяваныя грошы, кампенсацыя. Займіся сваёй парай, размаўляй. Магчымыя назойлівыя візіты сваякоў і суседзяў надакучаць табе 23-27.06. Кінь старыя прывычкі і прадузятасці, а адкрыеш новую, багатую крыніцу прыбытку.

**(22.05. — 22.06.)** Некаторыя справы пачнуць слімачыцца. Цяжка запанаваць над дэталямі, нялёгкія выбары. Партнёр заінспіруе цябе да новых дзеянняў. Будуць асобы, з якімі пагаворыш ад сэрца. Дробныя скрыгаты ў фінансах і ў здароўі. Але дасі рады ў розных сітуацыях, пазбягаючы рызыкі, нават на здзіўленне тых, хто махнуў на цябе рукою. Знойдзеш новае хобі. Трапіш у вока кагосьці новага і цікавага.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш старацца, аформіш усе справы, асабліва з паперамі і валакітай. Дагаворышся з людзьмі. Кашальком апякуецца Венера! Станеш на ногі! Многа энергіі, добры настрой. 27-29.06. удалы зварот у асабістым жыцці. Новыя знаёмствы і файная забава; знойдзеш братнюю душу.

**(24.07. — 23.08.)** Усё добра, ды турбуюць цябе сумненні, будзеш менш адважны і баявіты, чым у папярэдніх тыднях. Адчуеш, што цябе кахаюць. Ды не заружова з фінансамі (на выдаткі ўдасца ўсё ж сабраць адпаведную суму). Сур'ёзны і пазітыўны пералом у жыцці. 25-29.06. схавай фанабэрыстасць у кішэнь, не ваюй з мацнейшымі за цябе. Не давай нічога дарма. Спраўся з усімі хвастамі, каб у ліпені не балела табе галава.

**(24.08. — 23.09.)** Лепшая форма, ажыўленне, самаўпэўненасць, здольнасць да рэгенерацыі. У горшы час падмога невядома адкуль. Ды могуць паявіцца скрыгаты — хтосьці не так зразумее твае намеры. Зваліцца табе на галаву шмат квітоў і выдаткаў, але спрыяюць табе акалічнасці і людзі. На ўсякі выпадак схадзі да лекара, пракантралюй здароўе. 24.06. хтосьці можа сказаць табе колкія словы.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш шукаць моцных і рашучых — толькі пры такіх асобах жвавей заб'ецца тваё сэрца. Можаш падумаць аб самастойнай дзейнасці. Цяжкія перапраўы ў каханні з былымі і новымі. Добры час пагасіць даўгі. Калі думаеш пра свой бізнес, разумна калькулюй рызыку. Не дай сябе намовіць цяпер да дарагіх, раскошных пакупак. Еж авакада і ласося.

**(24.10. — 22.11.)** Лепш кудысьці з'едзь, з каханай асобай, з сям'ёй. Ды калі адкладзеш свой водпуск, шэф гляне прыхільнейшым вокам на цябе ды даручыць вельмі важнае заданне (пры нагодзе спячэш і свой пірог). Можа турбаваць цябе здароўе бацькоў ці дзядоў. Можаш сустрэць братнюю душу. 27-29.06. можаш высветліць складаныя сямейныя справы. Еж парасткі, зерне і арэхі. Купі добрыя сонечныя акуляры.

**(23.11. — 22.12.)** Ты цяпер інспірацыя для іншых, можаш таксама атрымаць цікавую прапанову — бяры без агляdкі, такая нагода паявіцца няхутка! Асабліва, калі яна датычыць былых незавершаных спраў. Бярыся за працу! Ды будзь вельмі асцярожны з машынамі і вострымі прадметамі. На працы многа абавязкаў, але прыемная, вясёлая атмасфера, з прыемнасцю будзеш працаваць. Еж больш агародніны, варушыся.

**(23.12. — 20.01.)** Можаш адчуваць, што правальваецца табе грунт пад нагамі. Не бярыся за ніякія няпэўныя інвестыцыі, крэдыты, пазыкі, нават калі б мелі гэта быць залатыя горы. Дарэчы, найбольш ахвоты ў цябе адно да амураў (асаблівы росквіт у старых пар!). Не цягайся па шынках, пашукай лепш знаёмстваў у інтэрнэце. 27-29.06. не будзе цішы і спакою, усё будзе кіпець. Можа, нават схочаш перасяліцца. Можаш пазбыцца кепскіх звычак.

**(21.01. — 19.02.)** Неабходнасць паправіць памылкі, пачуццё застою, спазненні. Можаш сам напароцца на ражон. Не бярыся за рамонт ці мыццё акон, лепш зайдзі да цырульніка, касметолага, пакажыся на імпрэзах. На працы адны поспехі і мілая атмасфера. Вазьміся за старыя планы, пасля 29.06. адкрыюцца новыя магчымасці.

**(20.02. — 21.03.)** Могуць цябе турбаваць ўласныя пераляк і фобіі. Лёгка цябе цяпер можна зманіпуляваць, цяжкавата з трапнай ацэнкай людзей. 28-30.06. лёгка можаш трапіць у сіло кахання; новыя знаёмствы і сувязі, наладжаныя ў гэтыя дні, будуць нетрывалыя. Старайся не нервавацца. 24-27.06. час роздуму, медытацыі. 24-27.06. не пазайздросць камусьці грошай і ўплываў. 26-30.06. не дапусці да занядбанняў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Лаўрэаты «Фолькавай фанаграмы» 2017 года

11 траўня г.г. у Варшаве адбылося ўрачыстае ўручэнне ўзнагарод «Фолькавая фанаграма» 2017 года пераможцам XX Фолькавага фестывалю Польскага радыё «Новая традыцыя». Журы першую ўзнагароду і званне лаўрэата «Фолькавай фанаграмы» 2017 года прысвоіў капэле сям'і Малішаў за кружэлку «Вясковы джаз». Другое месца заняў дуэт Манюха Біконт і Ксаверы Вуйцінскі за альбом «Ой борам, борам», а трэцяе — гурт «Мажныя мужыкі» за кружэлку «Вяселле». Узнагароду атрымалі таксама Барбара Кузуб-Самасюк і Міраслаў Самасюк з гурту «Чарамшына» з Чаромхі за альбом традыцыйнай музыкі Падляшша «Песні не толькі святыя».

Барбара Кузуб-Самасюк, як пераможца першага плебісцыту «Віртуальныя гуслі» з 2004 года, разам з Пётрам Пегатам уручылі «Фолькаваю фанаграму» 2017 года лаўрэату першай узнагароды капэле Малішаў.

Лідараў «Чарамшыны» Барбару Кузуб-Самасюк і Міраслава Самасюка з нагоды атрымання ўзнагароды павіншавалі на фейсбуку сто трыццаць двух інтэрнаўтаў. Да гэтых віншаванняў далучаецца і ніжэйпадпісаны.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | | | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | | 9 | 10 | 11 | 12 | | | | | |
| 13 | 14 | 15 | 16 | | 17 | 18 | 19 | 20 | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | | | | | | |

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. калючае пустазелле = 7 _ 9 _ 3 _ 13 _;
2. месяц у апошняй квадры з... забаронай пастановы = 18 _ 19 _ 20 _ 14 _ 1 _;
3. дадатак да прозвішча = 24 _ 23 _ 22 _;
4. папярэднік Сталіна = 25 _ 5 _ 4 _ 10 _ 21 _;
5. $CH_3$, элемент арганічных злучэнняў = 6 _ 8 _ 2 _ 26 _ 11 _;
6. украінскі абласны горад, у якім... вельмі сумна = 17 _ 16 _ 15 _ 12 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 22 нумара**

Атам, лунацік, чэрвень, сваяк Беларусь, Ірак, труба, хваля.

Рашэнне: **Усякаму свая рана баліць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Пад Альпамі (ч.2)

За правым берагам Лімата высіцца самы вядомы храм Цюрыха — Гросмюнстэр. Гэта ў ім у 1520-х гадах прапаведаваў адзін з галоўных лідараў Рэфармацыі — Ульрых Цвінглі. Як і іншыя лідары Рэфармацыі, Цвінглі выступаў супраць накапіўшыхся на той час разыходжанняў касцельнай практыкі з палажэннямі Свяшчэннага Пісання. Ён аспрэчваў, м.інш. цэлібат духавенства, наяўнасць у касцёлах абразоў і скульптур, арганаў, свечак, кадзілаў, крапільніц, мошчаў святых, літургічных спеваў, быў супраць пастоў, паломніцтваў і працэсій, а само набажэнства абмяжоўваў галоўным чынам да чытання фрагментаў Біблії і маральнага навучання. Ягоныя ўказанні былі падтрыманы ўладамі Цюрыха і поўнасцю ўводзіліся менавіта ў Гросмюнстэры, у якім служыў Цвінглі. Ён пісаў: „Адкідаю ідалаў і напышлівасць гэтага свету, папу і ягонае духавенства. Вы, вялебныя святары, ці можаце ў Евангеллі або Лістах паказаць найменшы хаця доказ, што маеце быць праваднікамі іншых хрысціян. Агіднае святарства папістаў ад д'ябла выводзіцца. Папа з'яўляецца сапраўдным апосталам свайго пана, пякельнага дэмана і згодна яго волі жыве і ўладарыць. Папскія правы гэта кпіна і хлусня, папскае святарства гэта толькі поза...”. Адзін са сведак устанаўлівання новых прынцыпаў так апісваў тадышнія падзеі, якія пачаліся 2 ліпеня 1524 года: „Цягам чарговых дзён ішлі ад аднаго цюрыхскага касцёла да іншага. У кожным з іх, за закрытымі дзвярамі, перакульвалі скульптуры і разбівалі іх на бруські для маставых, разбіралі алтары і спальвалі іх перад касцёламі, выносілі ювелірныя вырабы, ламалі іх, каштоўныя металыператоплівалі і чаканілі з іх манеты, прызначаючы іх на дапамогу бедным. Бедным таксама раздавалі аблачэнні. Усе абразы і тыя мастацкія вырабы, якія дзякуючы чалавечай таленавітасці набывалі прыгажосць, разбівалі, вяртаючы іх у стан сыравіны, з якой яны былі выкананы: зноў станавіліся яны каменнем, драўнінай, мармурам, металам, каштоўнымі камянямі. Скарыстоўвалі іх у якасці будаўнічых матэрыялаў, апалу, фінансавых сродкаў для бедных. А калі канчалі сваю работу, мылі касцельныя сцены дабяла дзеля ліквідацыі слядоў па роспісах...”.

Можа паказацца, што такая лютая расправа была толькі дзецішчам сваёй эпохі, што пасля суцішэння страсцей яна больш не паўторыцца. Але ж, як заўважыў мудры цар Саламон, усё, што калісь было, тое яшчэ і будзе...

У нейкіх двухстах метрах ад касцёла Гросмюнстэр знаходзіцца вузенькая вулачка Spiegelgasse, пра якую ўжо была згадка раней. Менавіта там, у доме № 1 у 1916 годзе зрадзіўся мастацкі кантэстацыйны рух дадаізм. У той самы час, калі абураныя сусветнаю вайною мастакі выказвалі бунт супраць чалавечай прагнасці, па той жа вуліцы часова пражываў і іншы кантэстатар тадышніх грамадскіх парадкаў — Уладзімір Ульянаў, больш вядомы як Уладзімір Ільіч Ленін. З Расіі ўцёк ён у замежжа, бо ў царскай дзяржаве пагражала яму сама менш сібірская ссылка, і да выбуху Першай сусветнай вайны жыў ён часова ў іншых краінах, у тым ліку ў аўстрыйскіх тады Пароніне і Кракаве, а ў вайну, як грамадзянін варожай Аўстрыі Расіі, быў адтуль выдвараны і пераехаў у Швейцарыю. Спярша жыў у Берне, але не спадабаўся яму мяшчанскі характар сталіцы і ён у пачатку 1916 года перасяліўся ў больш дынамічны Цюрых, дзе зняў пакойчык у кватэры шаўца Камерэра па Spiegelgasse, 14. У Цюрыху Ленін напісаў адну з найбольш вядомых ягоных прац „Империализм, как высшая стадия капитализма”. Ён даказваў, „что война, затеянная империалистами ради своего обогащения, приносит неисчисляемые бедствия и страдания народам, вызывает разрушение материальных и культурных ценностей, созданных человечеством на протяжении столетий. В. И. Ленин выдвинул лозунг: превратить империалистическую войну в войну гражданскую, в войну трудящихся против буржуазии”. Быццам грамадзянская вайна не несла разбурэння матэрыяльных і культурных каштоўнасцей...

„Беларуская савецкая энцыклапедыя”: „У кнізе „Імперыялізм як вышэйшая стадыя капіталізму” (1916, апубл. 1917) даў усебаковы аналіз імперыялізму як вышэйшай стадыі развіцця капіталізму, выявіў умовы яго непазбежнай гібелі, даказаў, што імперыялізм ёсць паміраючы капіталізм, пярэдадне сацыяліст. рэвалюцыі”. „«Империализм, как высшая стадия капитализма» и другие работы В. И. Ленина, написанные в период первой мировой войны, дали коммунистической партии ясную программу борьбы за социалистическую революцию. Гениальные идеи, изложенные в этой работе В. И. Лениным, целиком и полностью подтвердились всем последующим развитием империализма и опытом международного рабочего движения” — сцвярджала „Большая советская энциклопедия” з першай паловы 1950-х гадоў...

Занадта адкрыта Ленін не мог у Швейцарыі выступаць са сваімі пастулатамі, бо яго маглі палічыць падбухторшчыкам супраць грамадскага парадку і выдварыць у дзяржаву ягонага паходжання, у Расію, дзе мог спадзявацца больш сур'ёзных мер ваеннага часу. Ён наведваў бібліятэку, бываў на сходах швейцарскіх сацыял-дэмакратаў, але паводзіў сябе там даволі стрымана. Да часу, калі да яго дайшла вестка пра звяржэнне царскага панавання ў лютым 1917 года. Часовы ўрад, які тады ўсталяваўся ў Расіі, дазваляў вяртацца палітычным уцекачам, што эмігрывалі ў замежжа. І Ленін загарачыўся вярнуцца ў Расію...

Савецкія даведнікі вельмі лёгка апісваюць гэтае вяртанне. „Большая советская энциклопедия” з першай паловы 1950-х гадоў піша: „27 марта 1917 В. И. Ленин выехал из Швейцарии и 3 апреля прибыл в Петроград. Приезд В. И. Ленина имел огромное значение для партии, для революции”. Справа вяртання была, аднак, складаная. Дарога цераз Францыю і Вялікабрытанію была ўладамі гэтых ваюючых краін адкрыта тым расійскім эмігрантам, якія выступалі за вайну да пераможнага канца, затое закрыта тым расійскім грамадзянам, якія выступалі за выхад Расіі з вайны і сепаратны мір з Германіяй, а за гэта менавіта гарачыўся Ленін. Падарожнічаючых цераз Германію ўлады маглі палічыць здраднікамі і паставіць пад ваенны суд... Ленін задумаў здабыць фальшывы шведскі пашпарт, надзець парык, прыкінуцца глуханямым і ў такім выглядзе цераз Германію, Галандыю і Вялікабрытанію пракаўзнуцца ў Расію. Аднак ягоная жонка, Крупская, заўважыла, што ён будзе лёгка дэканспіраваны, бо голасна крычыць у сне, асабліва лаючы расійскіх палітыкаў на чале з Керанскім; задума не спрацавала...

Дапамогу аказаў Фрыц Платэн — швейцарскі таварыш Леніна. Ён падаўся ў германскае пасольства ў Берне з прапановай дазволіць праезд расійскага дысідэнта па тэрыторыі Германії. Прапанова была пракансультавана з нямецкімі генштабам і міністэрствам замежных спраў, якія паставіліся даволі цёпла да яе, разлічваючы, што Ленін сыграе ў Расіі ролю траянскага каня, узнімаючы там грамадскія хваляванні, якія б паралізавалі ваенны высілак Расіі. Уінстан Чэрчыль ахарактарызаваў гэтую здзелку як падкінутую немцамі ў Расію заразную бацылу, як біялагічную зброю масавага знішчэння. Больш дакладна было б, аднак, назваць гэтую падзею прымяненнем сацыяльнай зброі масавага знішчэння...

Слоў пару пра самога Фрыца Платэна; Вікіпедыя: „Urodził się w starokatolickiej rodzinie. Od 1912 wchodził w skład władz Socjaldemokratycznej Partii Szwajcarii. Po upadku Drugiej Międzynarodówki zmienił swoje poglądy polityczne, stając się komunistą. Zaprzyjaźnił się również z Włodzimierzem Leninem: uzyskał zgodę od niemieckiego ambasadora w Szwajcarii, dzięki czemu mógł zorganizować jego wyjazd do Rosji razem z towarzyszami. 1 stycznia 1918 w Piotrogrodzie został ranny w rękę, gdy zamachowiec strzelał do Włodzimierza Lenina. Później był jednym z twórców Międzynarodówski Komunistycznej i Partii Komunistycznej Szwajcarii. Od 1923 przebywał w ZSRR. W latach 30. padł ofiarą represji wielkiego terroru w ZSRR zainicjowanego przez Józefa Stalina. Aresztowany w 1938, a następnie umieszczony w 1938 w obozie pracy w Niandomie, został rozstrzelany”. Расстраляны ў 1942 годзе. Не адзін ён — падобны лёс спаткаў і іншых спадарожнікаў Леніна з Цюрыха ў Петраград: Карл Радэк таксама быў расстраляны ў тым жа 1942 годзе, польскі бальшавік Якуб Ганецкі расстраляны ў 1937 годзе, іншы польскі рэвалюцыянер Мечыслаў Бронскі — у 1938 годзе, бліжэйшы таварыш Леніна Грыгорый Зіноўеў — у 1936 годзе; ехалі даказваць, што *імперыялізм ёсць паміраючы капіталізм, пярэдадне сацыяліст. рэвалюцыі*. Апрача іх, вядучых энтузіястаў новага грамадскага строю, загінулі тады яшчэ мільёны; колькі мільёнаў, не толькі бальшавіцкіх летуценнікаў — дакладна невядома...

У ліку спадарожнікаў Леніна была і ягоная любоўніца Інеса Арманд; Вікіпедыя: „В 1918 году под видом главы миссии Красного Креста Арманд была направлена Лениным во Францию, чтобы вывезти оттуда несколько тысяч солдат Русского экспедиционного корпуса. Там она была арестована французскими властями за подрывную деятельность, но отпущена из-за угрозы Ленина расстрелять за неё всю французскую миссию в Москве”. *Любовь не картошка*, а Уладзімір Ільіч быў чалавекам вельмі рашучага характару. Памерла Арманд у 1920 годзе, ад халеры...

(працяг будзе)

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Вуліца Spiegelgasse



Помнік Ульрыху Цвінглі ў Цюрыху




Даведка на Spiegelgasse, 14

ISSN 0546-1960 25